# 20 ГОД

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

му, што з усіх іншых аспэктаў дзейнасьці эміграцыі яна дае найменш «нагляднага» вонкавага эфэкту. Але гэта толькі на першы, павярхоўны пагляд. За пасьляваенны пэрыяд нашы палітычныя органы дасягнулі таго, што няма ніводнага ўраду «вялікіх гэтага сьвету», які-б ня быў грунтоўна паінфармаваны аб Беларусі, ейнай палітычнай гісторыі, імкненьнях нашага народу да дзяржаўнай незалежнасьці. Пэўна-ж, вялікая праца ў гэтай галіне праводзілася й праводзіцца паасобнымі арганізацыямі ў розных краінах. Першая сьцежка была працярэбленая аднак палітычнымі органамі. Аб тым, якой павагай карыстаюцца нашы палітычныя колы сярод эміграцыяў іншых народаў, найлепш сьветчыць той факт, што Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык вось ужо на працяту шэрагу гадоў перавыбіраецца на становішча Старшыні Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку).

Палітычная й навуковая літаратура аб Беларусі ў замежных мовах зьяўляецца вельмі важным сяродкам інфармацыі аб нашай Бацькаўшчыне ня толькі палітычных, але й шырэйшых колаў грамадзтва сьвету. Не гаворачы ўжо аб інфармацыйных матарыялах у розных мовах, выдадзеных паасобнымі мясцовымі арганізацыямі, варта адзначыць выданьні аб Беларусі Інстытуту Вывучэньня СССР у Мюнхэне ў беларускай, расейскай, ангельскай, францускай, гішпанскай, турэцкай, арабскай мовах. А за гэты-ж час маскоўскія стаўленікі на Беларусі дазволілі выданьне толькі аднае прапагандовае кніжыцы аб БССР у ангельскай мове.

Сваёй выдавецкай дзейнасьцяй у беларускай мове (газэты, часапісы, мастацкая й навукова-дасьледчая літаратура) наша эміграцыя можа таксама ганарыцца, маючы на гэта ўсе падставы. У гэтай галіне, а таксама ў галіне прапаганды навонкі нашай культуры й навукі вялікую працу праводзіць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Дзейнасьць выдавецтва «Бацькаўшчына» таксама пакіне трывалы сьлед ў гісторыі нашай эміграцыі й нашага вызвольнага руху наагул.

Наша эміграцыя здабыла таксама магчымасьць беспасярэдняй сувязі з Бацькаўшчынай шляхам сыстэматычных радыяперадачаў праз розныя радыястанцыі Захаду. Ня гледзячы на тое, што акупант выдае вялізарныя сумы на іхнае заглушваньне, яны ўсё-ж даходзяць да слухачоў. На гэта ёсьць нязьбітыя доказы.

Гістарычнай падзеяй зьяўляецца аднаўленьне беларускай рэлігійнай гіерархіі абодвух веравызнаньняў — спачатку асірацелай, ці лепш сказаць пакінутай айчымамі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, а пазьней Каталіцкае Царквы. Паўтараем, гэта гістарычная падзея, падзея ўсенароднага характару. Важнасьць яе асабліва відавочная на фоне разгулу пагромшчыкаў рэлігіі на Бацькаўшчыне.

Беларускае школьніцтва на эміграцыі, запачаткаванае ахвярнай жменькай нашай інтэлігенцыі неўзабаве пасьля вайны, ужо дае свае плады ў шмат-якіх галінах нашай дзейнасьці.

Ня будзем пералічаць усяго, што зроблена. У газэтным артыкуле гэта немагчыма, а прыгадваць адно, абыйшоўшы маўчаньнем другое, было-б несправядліва. Тут мы спынімся толькі на галоўным. Нельга, аднак, абмінуць эканамічнага аспэкту.

У сваёй пераважнай бальшыні наша эміграцыя ўладзілася адносна добра на новых месцах расьсяленьня. Мы гаворым «адносна», бо хоць бадай усім матарыяльна вядзецца няблага, шмат каму з нашай інтэлігенцыі — асабліва старэйшым — даводзіцца працаваць не ў сваёй прафэсіі. Але тут мы маем на ўвазе ня ўзровень асабістага дабрабыту, а матарыяльную базу нашай эміграцыі як актыўнага палітычнага фактару. Не сакрэт, што ступень актыўнасьці ў вялікай меры залежыць ад гэтае матарыяльнае базы.

Кажная краіна расьсяленьня мае свае спэцыфічныя ўмовы, больш ці менш спрыяльныя для арганізацыйнай дзейнасьці. У такіх краінах як Задзіночаныя Штаты, Канада, Ангельшчына нашы арганізацыі маюць свае грамадзкія цэнтры, нярухомую маемасьць. У ЗША й Канадзе існуюць навет прыбытковыя каапэратыўныя прадпрыемствы. Мясцовае арганізацыйнае жыцьцё больш-менш стабілізавалася й паасобныя арганізацыі могуць пахваліцца не абы-якімі дасягненьнямі з самых розных галінаў. Нажаль, тут ёсьць вялікае **але:** у нас да гэтага часу, пасьля 20 год жыцьця й дзейнасьці на эміграцыі, няма сталага фонду дзеля фінансаваньня плянавай палітычнай акцыі сусьветнага маштабу. Палітычныя дасягненьні, якімі мы слушна можам ганарыцца, зьяўляюцца вынікам ідэйнай ахвярнасьці нашых дзеячоў, якія ня мелі навет часу мінімальна забясьпечыць сябе ці эвэнтуальна сваю сям'ю, каб далей бесперабойна працягваць палітычную працу. Дасюлешнія формы фінансаваньня палітычнай акцыі — ад аднае пякучае неабходнасьці да другое — далёка не дасканалыя. Гэта хіба ясна кажнаму.

Ня кажны з нашых суродзічаў, сьведамы адказнасьці перад сваім народам, мае магчымасьць беспасярэдняга ўдзелу ў палітычнай працы. Але кажны з нас мае магчымасьць палегчыць і разьвіць гэтую працу сваім матарыяльным удзелам, не абмяжоўваючыся ўдзелам у тэй ці іншай мясцовай арганізацыі. Гэта адно з галоўнейшых заданьняў, якое мусіць паставіць перад сабой наша арганізаваная эміграцыя на 21-ым годзе свайго існаваньня.

Жыцьцё вучыць, што стацца палітычным эмігрантам лягчэй, чымся ім застацца. Але той, хто й цяпер з чыстым сумленьнем называе сябе палітычным эмігрантам, ня мае падставаў для пэсымізму. Дзейнасьць нашу ў першую чаргу належна ацэньвае вораг-акупант. Рыхтуючыся да адзначэньня 20-годзьдзя замены гітлераўскай акупацыі сваёй, ён загадаў некаторым пісьменьнікам — ці лепш сказаць тым, што на гэты назоў маюць неабгрунтаваныя прэтэнзіі — гуртам «стукнуць» па эміграцыі. Гурскія, новікавы, прокшы сыпнулі як з рукава аповесьцямі, памфлетамі пра эміграцыю й паасобных ейных прадстаўнікоў. І то не на экспарт, а для чытача на Бацькаўшчыне. Мазалі дзёгцем так, што аж перастараліся — навет афіцыйная крытыка зьвярнула на гэта ўвагу...

Лепшага атэстату нашай эміграцыі вораг запраўды выставіць ня мог. Хай гэта будзе для нас стымулам для далейшай працы й змаганьня.



# Заходняя прэса аб савецка-румынскіх перамовах

Заходняя прэса прысьвячае шмат увагі падарожжу ў Маскву румынскай урадавай дэлегацыі на чале з Георгэ Маўрэрам. Орган італьянскай партыі хрысьціянскіх дэмакратаў, газэта «Пополё» піша: «Для савецкага кіраўніцтва перамовы з Маўрэрам будуць ня лёгкімі. Бухарэст выразна ня мае намеру адмаўляцца ад сваіх імкненьняў да аўтаноміі. Адзінае, на што можа разьлічваць Хрушчоў — гэта паслабіць створанае напружаньне. Зусім магчыма, што савецкае кіраўніцтва згодзіцца не пярэчыць супраць цяперашняй палітыкі Румыніі узамен за падтрымку румынскімі кіраўнікамі кіраўніцтва КПСС у канфлікце паміж СССР і Пэкінам».

Незалежная італьянская газэта «Тэмпо» выказвае думку, што савецкае кіраўніцтва ўлічвае тую небясьпеку, якую ствараюць для яго імкненьні да аўтаноміі з боку камуністычных краінаў Усходняй Эўропы. Аб гэтым можна меркаваць хоць-бы па тым, што Тыту была прызначаная роля пасярэдніка ў ягоных перамовах з Георгію Дэж, у якіх браў удзел і Маўрэр».

«Прыезд у Маскву другой румынскай дэлегацыі на высокім узроўні на працягу кароткага часу паказвае на прысьпешаньне тэмпу ў канфлікце паміж СССР і Румыніяй, — піша ангельская газэта «Гардыян». — Ёсьць усе падставы ўважаць, — піша газэта, — што новая румынская дэлегацыя прыяжджае ў Маскву не дзеля таго, каб весьці тэарэтычныя дэбаты, а абмяркоўваць такія канкрэтныя пытаньні, як фінансаваньне разьвіцьця румынскай эканомікі».

Іншая ангельская газэта «Дэйлі тэлеграф» піша: «Камуністычныя кіраўнікі Румыніі перакананыя ў тым, што Румыніі ў камуністычным лягеры адводзіцца вузкая роля даваць іншым камуністычным краінам сыравіну, нафту й сельскагаспадарчыя прадукты. Гэта змушае іх імкнуцца да поўнага й самастойнага кантролю над эканомікай краіны і да плянаваньня базы для ўмацаваньня нацыянальнай незалежнасьці. А гэта ўлучае свабоду гандлю з капіталістычнымі краінамі. Патрэба лічыцца з думкай іншых камуністычных краінаў з прычыны канфлікту з Пэкінам пазбаўляе Хрушчова магчымасьці ўжываць у дадзеным выпадку крутыя мерапрыемствы і ён прымушаны йсьці на ўрэгуляваньне такіх разыходжаньняў шляхам перамоваў.

Амэрыканская газэта «Крышчэн Саенс Монітор» выказвае думку, што цяпер для Хрушчова галоўную небясьпеку становіць сабой навет ня сам савецка-кітайскі канфлікт, а ўзьніклыя ў сувязі зь ім імкненьні краінаў Усходняй Эўропы да незалежнасьці ад савецкага кіраўніцтва.

Паводле паведамленьня агенцтва Юнайтэд Прэс Інтэрнэшнл, падчас перамоваў з савецкімі кіраўнікамі румынская дэлегацыя паставіла пытаньне аб анэксіі Савецкім Саюзам Бесарабіі, якая да чэрвеня 1940 году была румынскай правінцыяй. Паводля вестак агенцтва, румынская дэлегацыя адкрыта не запатрабавала звароту Бесарабіі Румыніі. Яна ўзьняла пытаньне аб Бесарабіі ў сувязі з тым, што на ейнай тэрыторыі жыве каля аднаго мільёна Румынаў, якія ня маюць правоў нацыянальнай меншыні.

# Хрушчоў і калгаснае сялянства

Савецкая прэса й сам Хрушчоў прыкладаюць шмат высілкаў, каб паказаць яго — Хрушчова, як прыяцеля калгаснага сялянства. Гэта робіцца ў першую чаргу ў парадку супрацьстаўленьня калгаснай палітыкі Хрушчова палітыцы Сталіна.

Першы раз такое супрацьстаўленьне Хрушчоў зрабіў на закрытым пасяджаньні XX зьезду КПСС. Гаворачы аб цяжкім жыцьці калгасьнікаў ў пэрыяд Сталіна, Хрушчоў падаў адзін факт. Для павялічэньня дзяржаўных прыбыткаў ад сельскай гаспадаркі Сталін запрапанаваў ападаткаваць кажную калгасную сям'ю аднэй курыцай. Для сям'і гэта, маўляў, не вялікая страта, а для дзяржавы гэта значны прыбытак. І Хрушчоў абураўся няведаньнем Сталіна палажэньня ў вёсцы і ягонай жорсткасьцяй у дачыненьні да калгаснага сялянства.

Можна прыгадаць яшчэ й іншае выступленьне Хрушчова. У сваім дакладзе 28 лютага сёлета Хрушчоў гаварыў, што «партыя ў сутнасьці асудзіла антыкалгасную палітыку цэнай, якая праводзілася пры жыцьці Сталіна», калі «праца бальшыні калгасьнікаў практычна не аплачвалася.»

Зразумела, пасьля сьмерці Сталіна калгаснае сялянства атрымала некаторыя палёгкі. Але гэтыя палёгкі надзвычай зьнікомыя і прадыктаваныя яны катастрафальным палажэньнем сельскай гаспадаркі і ейным пэрманэнтным крызісам за ўсё пасьлясталінскае дзесяцігодзьдзе.

Для поўнага ўяўленьня дачыненьняў Хрушчова да калгаснага сялянства неабходна прыгадаць яшчэ некаторыя гістарычныя факты.

Хрушчоў зьяўляецца ініцыятарам узбуйненьня калгасаў і аўтарам ідэі аграгарадоў. Гэтая ідэя настолькі супярэчыла інтарэсам сялянства, што навет Сталін спалохаўся надрукаваньня ў прэсе выказваньняў Хрушчова на гэтую тэму і артыкул цяперашняга кіраўніка савецкага ўраду зьявіўся із спазьненьнем на шмат месяцаў. У сваім артыкуле Хрушчоў прапанаваў зганяць калгасьнікаў у буйныя калгасныя пасёлкі. Рабіў ён гэта загадзя ведаючы, што для будаўніцтва такіх пасёлкаў няма ніякіх капіталаў.

Хрушчоў зьяўляецца таксама аўтарам, накіраванага ў першую чаргу супраць калгаснікаў, Указу з 4-га сакавіка 1961 году аб высылцы гэтак званых «антыграмадзкіх і паразытных элемэнтаў». Пад гэты закон падводзяць калгасьнікаў, якія ня выканаюць усталенай колькасьці працадзён. Як паведамляў нядаўна часапіс «Савецкая юстыцыя», у гэтую катэгорыю быў залічаны калгасьнік з хворай жонкай і чатырма дзецьмі, якога само кіраўніцтва калгасу адпусьціла на заработкі, каб ён падтрымаў сям'ю. А пазьней гэты калгасьнік быў залічаны ў катэгорыю дармаедаў, бо выпрацаваў мала працадзён у калгасе.

Характэрна, што гэтай ідэяй змаганьня з «драмаедамі» у калгасах Хрушчоў займаўся яшчэ ў 1949 годзе падчас свайго побыту на Ўкраіне у якасьці першага сакратара ЦК КПУ. Тады газэта «Праўда» выхвальвала створаныя Хрушчовам у калгасах Украіны «нязносныя ўмовы для дармаедаў», што, быццам-бы, памагло моцна падняць працоўную дысцыпліну ў калгасах. Але-ж Хрушчоўскі Указ 1961 году супраць «дармаедаў» фактычна антызаконны, тому што высылку непажаданых для партыі калгасьнікаў ён ускладае на агульныя сходы калгасьнікаў, а не на судовыя органы.

Толькі ў сьвятле ўсіх гэтых фактаў можна мець правільнае ўяўленьне аб стаўленьні Хрушчова да калгаснага сялянства.

В. ПАНУЦЭВІЧ

# Горадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918-1919 гадох

3)

Адначасова з арыштамі й рэвізіямі сярод ахвіцэраў беларускага горадзенскага палка, праводзіліся арышты й рэвізіі сярод іншых Беларусаў. А што ўсё гэта рабілася з загаду польскага ўраду й самага Пілсудзкага, сьветчыць той факт, што дзеля арышту падпалкоўніка Дзямідава, каманданта Горадні, і палкоўніка Усьпенскага, быў адумысны тэлеграфічны загад з Варшавы. Іх арыштавалі як заложнікаў за вязьненага ў Ковенскай турме Цьвірку-Гадыцкага.[54]

Ня гледзячы на ўсе гэтыя рэпрэсіі, заст. палк. Антонава палк. Гайдукевіч пераняў камандаваньне Палком і 2 чэрвеня паслаў рапарт ген. Фалевічу з дамаганьнем вярнуць коні, вазы і ўсё забранае Палякамі; зьняць з будынку штабу Палка польскі сьцяг і не перашкаджаць ў вывешваньні беларускага і жамойцкага; зьняць з казармаў польскую старожу; спыніць рабунак з боку польскіх жаўнераў; загадаць, каб польскія жаўнеры аддавалі почэсьць беларускім ахвіцэрам на вуліцы; звольніць з арышту палк. Антонава і іншых ахвіцэраў ды вярнуць ім забраную зброю; няўмешвацца ў нутраныя справы Палка згодна з п. 2 умовы; спыніць набор беларускіх жаўнераў ў польскія легіёны. Рапарт падпісалі палк. Гайдукевіч і палк. Касьціцэвіч.[55]

*13. Прыезд у Горадню Пілсудзкага.*

На колькі вытварылася скамплікаваная сытуацыя ў Горадні, якая магла-б пашкодзіць польскім інтарэсам у Парыжы, сьведчыць тое, што ў гэты крытычны мамэнт вырашыў прыбыць у Горадню сам Пілсудзкі. Не дзеля паўстрыманьня разгульля Палякаў, але для затушоўкі самым Пілсудзкім становішча ды падмацаваньня прапольскіх элемэнтаў.

Прыезд Пілсудзкага ў Горадню адбыўся 3 чэрвеня 1919 г. — гэта ёсьць на другі дзень пасьля раззбраеньня беларускіх аддзелаў у Горадні. У зьвязку з гэтым прыездам Пілсудзкага 2 чэрвеня былі зьнятыя польскія старожы зь беларускіх казармаў, жаўнерам і ахвіцэрам дазволена свабодна прабываць у межах гораду.

Палк. Гайдукевіч, даведаўшыся 2 чэрв. аб прыезьдзе ў Горадню Пілсудзкага, зьвярнуўся да ген. Фалевіча з просьбай, каб дапусьціў яго на аўдыенцыю з польскім маршалкам. Фалевіч даў яму запіску да ад'ютанта Пілсудзкага маёра Каспжыцкага такага зьместу: «Прашу выстарацца аўдыенцыю ў Начальніка Дзяржавы часова камандуючаму Беларускім Палком ппалк. Гайдукевічу».[56]

Цікава зьвярнуць увагу на тыя настроі, якія былі ў Горадні ў часе прыезду Пілсудзкага, запісаныя ўва ўспамінах Антонава. Пілсудзкі сярод беларускага насельніцтва ўважаўся за свайго чалавека, прытым сацыялістага, дык была вера, што ён не пакрыўдзіць. Аднак запраўднасьць выявіла, што іншае.[57]

«Адбыўся пышны ўезд палкаводцы-беларуса, «вялікага» сацыялістага, — піша Антонаў. — Вялікага хаця таму, бо на яго пакладаліся вялікія надзеі. Бо-ж не жарты: маршалак — Беларус, сацыялісты, вызваліцель ад вяковага рабства ўсіх нацыяў, ад самадзяржаўя, ад паноў, бальшавікоў маскоўскіх ды навет ад варшаўскіх! Малюнак спатканьня і провадаў Пілсудзкага і прыехаўшых зь ім прастаўнікоў Антанты быў наладжаны Палякамі эфэктна. Быў летні сонечны дзень. На загад усё ўпрыгожылі польскімі штандарамі, арламі, гірляндамі.

«Зьехаліся прыгожа адзетыя паны з усіх канцоў, войскі, музыка... Былі прыведзены і дэфілявалі перад трыбунай вучні польскіх і жыдоўскіх школаў. Беларускія школы ня бралі ўдзелу... Ішлі войскі, арганізацыі...

«Зь беларускіх сацыялістых гарачы ўдзел у урачыстым спатканьні, провадах і прамовах прынялі пан Аляксюк і яго сястра, якія ўжо ў той час лічыліся ў варшаўскіх эндэкаў сваімі людзьмі, а ў Беларусаў «шчырымі» дзеячамі. Стоячы на бальконе Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны, яны выяўлялі сваю радасьць нібы ад беларускага народу. На іхным бальконе быў плякат з надпісам: «Нехай жые польскі довудца, пан Пілсудзкі! Нехай жые польске войско!».

На станцыі ў Горадні сустракалі Пілсудзкага й прадстаўнікі ад Беларускага Палка на чале з палк. Гайдукевічам. Гайдукевіч перадаў Фалевічаву запіску Каспжыцкаму, а той Пілсудзкаму. Пілсудзкі праз ад'ютанта адказаў, што прыме палк. Гайдукевіча на замку.

На замку пасьля дэфіляды Пілсудзкі прымаў розныя дэлегацыі: польскія, жыдоўскія і беларускую.

Пілсудзкі прыняў насамперш палк. Гайдукевіча зь беларускай дэлегацыі. Палк. Гайдукевіч зложыў падробны рапарт аб дагаворанасьці з Палякамі, аб польскіх шыканах і раззбраеньні Палка. Пілсудзкі, праслухаўшы рапарт, прыкінуўся бясьсільным, кажучы, што ня можа нічога зрабіць, бо Полк ня выканаў загаду ген. Шаптыцкага. А на супакаеньне сказаў: «Мы тут толькі госьці, мы адыдзем адсюль і вы будзеце гаспадарамі».[58]

Пасьля прыйма дэлегацыяў на замку быў банкет. На банкеце былі й прадстаўнікі ад беларускіх арганізацыяў і ўстановаў. Асабліва ветлівымі былі польскія прыслужнікі да Горадзенскага праваслаўнага япіскапа Уладзіміра. Якое-ж было зьдзіўленьне гэтага пастыра, калі ён, вярнуўшыся дахаты, даведаўся, што ў часе яго адсутнасьці, г. ё. быцьця на банкеце, польская палявая жандармэрыя рабіла ў ягонай кватэры старанны вобыск з выламам дошчак у падлозе, з узломам сьценаў і інш. Вось якую вартасьць мелі словы Пілсудзкага. Праз два дні ген. Фалевіч прысылаў да Япіскапа свайго ад'ютанта з перапросінамі за начны напад нейкіх «бандытаў», аб чым быццам ён цяпер даведаўся.

На банкеце зь Беларусаў актыўнай была група Аляксюка. «Салаўінай трэльлю заліваўся яго голас ад імя беларускага народу ў прамове публічнага прывітаньня «вялікага сацыялістага пана Пілсудзкага», — піша Антонаў, — «і пан Пілсудзкі не заставаўся ў даўгу: пахваліў салаўя беларускага і абяцаў беларускаму народу свабоду, незалежнасьць і непадзельнасьць яго зямлі».[59] Далей Антонаў дадае: «І мы бачым, Пілсудзкі споўніў сваю абяцанку: не дзяліў, а цалком далучыў да Польшчы... Хаця гутараць, што ад'яжджаючы на вакзале, пан Пілсудзкі перад публікай голасна, адкрыта заявіў, што незадаволены дзейнасьцяй сваіх чыноў за раззбраеньне беларускага Палка і рэпрэсіі да Беларусаў, бо ён сам Беларус і прыхільна адносіцца да іх».

# Апраўдваньне калянізатараў

Аднэй з характэрных асаблівасьцяў другой савецкай канфэрэнцыі салідарнасьці народаў Азіі й Афрыкі, што адбылася ў першай палове травеня ў Баку, было выступленьне «дэлегатаў» «саюзных» і «аўтаномных» рэспублік азіяцкай часткі Савецкага Саюзу. У гэтых выступленьнях яны хваліліся «надзвычайнымі посьпехамі» ў іхных рэспубліках і прапанавалі маладым афрыканска-азіяцкім краінам карыстацца іхным «дасьветчаньнем». Так, прыкладам, першы сакратар ЦК кампартыі Казахстану Джандылдын гаварыў: «Гістарычнае дасьветчаньне народаў Сярэдняй Азіі й Казахстану, бязумоўна, будзе карысным для народаў Азіі й Афрыкі, што сталі ці становяцца на шлях свабоднага й незалежнага разьвіцьця.»

Старшыні рэспубліканскіх камітэтаў салідарнасьці Туркмэністану, Казахстану, Таджыкістану і Армэніі і шматлікіх іншых у сваіх выступленьнях у тэй ці іншай форме паўтарылі «аргументы» Джандылдына.

Усе гэтыя аратары цьвердзілі, што «рэпрэзэнтаваныя» імі народы ў свой час таксама былі «вельмі адсталымі» і толькі дзякуючы савецкаму ладу і гэтак званай бескарыснай дапамозе Крамля ім удалося дасягнуць цяперашняга ўзроўню разьвіцьця. Яны асабліва падкрэсьлівалі, што гэтыя народы «вельмі ўдзячныя» «старэйшаму брату», «бескарысная дапамога якога забясьпечыла нябывалыя тэмпы эканамічнага і культурнага разьвіцьця.»

У ходзе Бакінскай канфэрэнцыі сталася відавочным, што ўсе гэтыя прамовы і пахвальныя оды мелі за мэту запярэчыць абвінавачваньням кітайскіх камуністых ў адрас Масквы, што яна йдзе шляхам нэакаляніялізму. Дакладней гаворачы, справа тычылася савецка-кітайскай канкурэнцыі ў краінах Азіі й Афрыкі. Цэлы шэраг аратараў, падкрэсьліўшы, што «старэйшы брат» прынёс народам нацыянальных рэспублікаў «культуру», пабудаваў дарогі, новыя прадпрыемствы і навет гарады, разьведаў і распрацаваў багацьці іхных нетраў, — зрабілі нацёк на тое, што, маўляў, як можна абвінавачваць савецкі рэжым у каляніялізьме, калі ён дае нерасейскім народам Савецкага Саюзу столькі магчымасьцяў?!

У тыя-ж самыя дні, калі «дэлегаты» азіяцкіх рэспублік Савецкага Саюзу гаварылі свае прамовы на Бакінскай канфэрэнцыі, старшыня азэрбайджанскага камітэту салідарнасьці — паэт Расул Рза — апублікаваў у газэтах «Бакінскій Рабочій» і «Эдабыят і Інджэсанат» артыкул, у якім, між іншым, гаворыцца: «Звычайна апосталы каляніялізму хваляцца, што яны прыносяць у адсталыя краіны цывілізацыю: будуюць дарогі, дамы, распрацоўваюць багацьці нетраў і гэтак далей. Але добра ведаем, што азначае гэтая 'цывілізацыя' на справе. Калі калянізатар будуе дарогу — дык толькі для таго, каб яму лягчэй было вывозіць нарабаванае дабро. Калі ён распрацоўвае нетры зямлі — дык толькі для таго, каб яшчэ больш прыгнятаць цела і дух паняволенага ім народу.»

Гэтыя словы Расула Рза фармальна былі накіраваныя супраць заходніх, ці — клясычных калянізатараў. Але ніхто ня можа адмаўляць, што яны ў такой-жа самай ступені падыходзяць і да новага віду каляніялізму — расейска-бальшавіцкага. Каму, напрыклад, зь Беларусаў ня ведамая гэтая палітыка хоць-бы ў дачыненьні да беларускага народнага багацьця — лясоў. Гэтак званыя плянавыя лесанарыхтоўкі, гэтая каляніяльна-рабаўніцкая гаспадарка, спрычыніліся да таго, што пры канцэнтрычных высеках лясоў, цэлыя раёны Беларусі церпяць ужо ад эрозіі глебы.

Для насьвятленьня запраўднага палажэньня ў савецкіх рэспубліках зробім такое прыпушчэньне:

Партугалія зьяўляецца цяпер амаль адзінай каляніяльнай дзяржавай Захаду і мае некалькі калёніяў у Афрыцы. Рэжым Салязара, з аднаго боку, уважае гэтыя тэрыторыі неад'емнай часткай мэтраполіі, а, з другога, занядбоўваючы патрэбы насельніцтва гэтых калёніяў, перашкаджае ейнаму нармальнаму разьвіцьцю. Але ўявім сабе, што рэакцыйны рэжым Салязара замяняецца больш «прагрэсыўным» і новы рэжым безадкладна робіць мерапрыемствы, каб падняць узровень разьвіцьця, скажам, Анголі і Мозамбіку да ўзроўню разьвіцьця савецкіх рэспублік. Аднак, як і ў Савецкім **Саюзе, народы гэтых правінцы**яў не атрымаліваюць свабоды й незалежнасьці ды далей кіруюцца зь Лісабону, прычым прыродныя багацьці гэтых тэ-

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

# «Дэмакраты»

Толькі людзі, пазбаўленыя ўсякага пачуцьця гумару, могуць чытаць бяз усьмешкі цьверджаньні маскоўскіх прапагандыстых, калі яны пішуць аб недэмакратычных парадках унутры камуністычнай партыі Кітаю. Кітайцаў абвінавачваюць, што яны дасюль ня маюць зацьверджанай праграмы. А сама кампартыя Савецкага Саюзу зацьвердзіла ўласную праграму толькі 30 год пасьля першай пастановы аб ейным прыняцьці. Кітайцаў абвінавачваюць у тым, што вось ужо мінула 6 гадоў, як яны ня склікаюць чарговага партыйнага зьезду. А XIX зьезд кампартыі Савецкага Саюзу, на якім Хрушчоў зрабіў даклад аб новым статуце КПСС, быў скліканы толькі праз чатырнаццаць год, хоць стары статут вымагаў ягонага скліканьня кажныя тры гады.

Кітайцаў абвінавачваюць у тым, што яны ўвялі ў партыі і ў краіне сыстэму паліцыйнай асокі й сыстэму партыйных споведзяў, ператварыўшы гэтую сыстэму ў догму марксізму-ленінізму. Але-ж варта прыгадаць, што гэтак званая рэвалюцыйная пільнасьць, гэта значыць тая-ж самая сыстэма паліцыйна-чэкістаўскай асокі якраз і нарадзілася ў апараце камуністычнай партыі Савецкага Сюзу, і гэтая асока, і ўся сыстэма і дасюль зьяўляецца альфай і амэгай савецкага камуністычнага рэжыму. Кітайцаў абвінавачваюць у тым, што ў камуністычнай партыі Кітаю няма ніякай унутрыпартыйнай дэмакратыі і што масе сяброў камунісычнай партыі Кітаю накідваюцца пастановы прынятыя на вярхох, бяз удзелу гэтай масы. А ўся-ж сутнасьць славутага дэмакратычнага цэнтралізму КПСС якраз і палягае ў накіданьні зьверху пастановаў масе сяброў КПСС. Кітайцаў абвінавачваюць у тым, што ў камуністычнай партыі Кітаю слова аднаго чалавека, Мао Цзэ Дуна, прызнаецца законам, як быццам для камуністычнай партыі Савецкага Саюзу слова Леніна ня было законам, слова Сталіна ня было законам — як сёньня законам зьяляецца слова Хрушчова.

Інакш кажучы, ува ўсіх гэтых пытаньнях, у якіх Масква абвінавачвае Пэкін, Пэкін быў і застаецца верным прадаўжальнікам традыцыяў і таленавітым перапмальнікам гістарычнага дасьветчаньня партыйнага апарату камуністычнай партыі Савецкага Саюзу — незалежна ад таго, хто яе ачольваў ці ачольвае — Сталін, Маленкоў ці Хрушчоў. Людзі, якія прыпісваюць Кітайцам недэмакратызм, самаволю партыйнага апарату, узурпацыю правоў партыйнай масы, павінны былі-б спачатку даказаць, што яны самі не такія. Аднак гэтага дасюль ня здарылася. Возьмем тут толькі адзін, хоць і фундаментальны прыклад: што зьмянілася пасьля Сталіна ў дачыненьнях паміж камандnай роляй партапаратчыкаў і падпарадкаванай роляй партыі? Пры Сталіне сакратары парвічных партыйных арганізацыяў фармальна выбіраліся партыйнай масай, а фактычна іх прызначалі райкомы, ці гаркомы. Цяпер — тое-ж самае. Пры Сталіне сакратароў райкомаў і гаркомаў партыі фармальна выбіралі на канфэрэнцыях і пленумах гэтых арганізацыяў, але фактычна іх прызначалі абкомы — цяпер — тое-ж самае. Пры Сталіне сакратароў абкомаў, крайкомаў і цэнтральных камітэтаў кампартыяў саюзных рэспублікаў фармальна выбіралі на канфэрэнцыях, зьездах і пленумах,, але фактычна іх прызначаў апарат ЦК КПСС. Цяпер — тое-ж самае. Пры Сталіне не сакратарыят быў адказны перад пленумам ЦК, а наадварот — пленум ЦК быў адказны перад сакратарыятам. Цяпер — тое самае.

Зразумела, кітайскія камуністычныя лідэры — зусім не дэмакраты, і ў гэтым трэба згадзіцца з маскоўскімі прапагандыстымі. Але маскоўскія аргументы супраць Пэкіну толькі тады сталіся-б пераканальнымі, калі-б само савецкае партыйнае кіраўніцтва стала на шлях не папяровай, як дасюль, а запраўднай дэмакратызацыі і лібэралізацыі. І ня толькі партыі, але й дзяржавы.

# Шансы Голдуотэра

Зьезд рэспубліканскай партыі Амэрыкі, на якім будзе абраны кандыдат ад гэтае партыі на прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў, адбудзецца 13-га ліпеня. Працягам дзён, што засталіся да зьезду йшло асабліва напружанае змаганьне паміж двума галоўнымі рэспубліканскімі спаборнікамі — сэнатарам Голдуотэрам — кансэрватарам і губэрнатарам Скрантанам — лібэралам. Здарылася колькі падзеяў, што ўзмацняюць шансы сэнатара Голдуотэра стацца кандыдатам на прэзыдэнта. Перш-на-перш адбылося змаганьне паміж Голдуотэрам і Скрэнтанам за штат Іліной. Штат гэты ўважаўся абодвума кандыдатамі за адну з ключавых пазыцыяў. З 58-ёх галасоў, якія штат будзе мець на рэспубліканскім зьезьдзе — 40 галасоў выказаліся за Голдуотэра. Рэшта галасоў засталіся нэўтральнымі. Назіральнікі ўважаюць, што гэта вялікая перамога для сэнатара Голдуотэра. Апрача гэтага сваё падтрыманьне Голдуотэру выказаў і сэнатар Дырксэн. Дырксэн стаіць на чале рэспубліканскае фракцыі ў сэнаце і ўважаецца за чалавека вельмі ўплывовага. Апошнім часам аўтарытэт Дырксэна сярод лібэральных колаў узмоцніўся, бо Дырксэн вельмі актыўна падтрымваў у сэнаце новы закон аб грамадзкіх правох. Сэнатар Голдуотэр галасаваў супраць гэтага закону і палітычныя праціўнікі Голдуотэра абвінавачваюць яго ў рэакцыйнасьці ў дачыненьні да кяляровага жыхарства Амэрыкі. Сэнатар Дырксэн сваім падтрыманьнем Голдуотэра значна аблягчае такія абвінавачаньні. Дырксэн заявіў, што ніхто ўжо ня здолее перамагчы сэнатара Голдуотэра на рэспубліканскім зьезьдзе. Да нядаўнага часу яшчэ лібэралы спадзяваліся на дапамогу былога прэзыдэнта Айзэнгаўэра, аднаго з найбольш аўтарытэтных рэспубліканцаў. Думалі, што Айзэнгаўэр выкажа адкрытае падтрыманьне губэрнатару Скрантону і стане, так сказаць, супраць Голдуотэра. Тымчасам Айзэнгаўэр на гэтым тыдні адмовіўся зрабіць гэта, застаўшыся нэўтральным. Шмат якія назіральнікі такім парадкам думаюць разам з сэнатарам Дырксэнам, што ў сёлетніх прэзыдэнцкіх выбарах за месца ў Белым доме ад імя рэспубліканцаў будзе змагацца сэнатар Голдуотэр. Дэмакратычная партыя фармальна яшчэ ня выставіла свайго кандыдата. Агульна ўважаецца, аднак, што кандыдатам гэтым будзе цяперашні прэзыдэнт Джонсан.

# Наступ казёншчыны

Ужо чатыры з палавінай дзесяцігодзьдзі савецкая ўлада змагаецца на Беларусі з рэлігіяй, рэлігійнымі сьвятамі й абрадамі. Гэтыя рэлігійныя сьвяты і абрады ўжо ад сівой старыны так увайшлі ў быт нашага народу, што, ахварбаваныя беларускім нацыянальным калярытам, сталіся запраўды народнымі. Здавалася-б, што ўлада, якая выдае сябе за народную, нічым гэтую сваю народнасьць не магла-б падкрэсьліць лепш, як пашанай тых традыцыяў, якія народ стварыў і якімі жыў на працягу стагодзьдзяў. Але вось у наш цывілізаваны век мы перажываем дзікі парадокс: ніякая ўлада ня крычыць больш аб сваёй народнасьці, як савецкая, і ніякая ўлада больш як гэтая не пагарджае духовымі здабыткамі народу. Побач з далейшым завайстрэньнем вайны супраць рэлігіі і рэлігійнай абраднасьці, сучасныя камуністычныя верхаводы не пайшлі навет насустрач дамаганьням беларускай грамадзкасьці аднавіць такое, здавалася-б, чыста народнае сьвята, як Купальле. Затое, камуністычныя дыктатары адміністрацыйным парадкам накідаюць беларускаму народу свае казённыя сьвяты й абрады.

Адчуваючы іхную штучнасьць, беларускі народ зусім слушна ставіцца да іх з пагардай, як да нечага антынароднага, часовага. А гэта непакоіць партыйных верхаводаў. І яны пастанавілі гвалтам ўсунуць свой казённы бот і ў найбольш інтымную сфэру жыцьця Беларуса, ягонай сям'і — жанімства, народзіны, провады рэкрутаў. Усе гэтыя падзеі маюць набыць цяпер адценак савецкага патрыятызму.

8-га травеня прэса БССР апублікавала пастанову Савету Міністраў БССР у пытаньні гэтак званага «паляпшэньня працы савецкіх органаў па ўкараненьні ў быт новых савецкіх сьвятаў і абрадаў». З гэтай мэтай Савет Міністраў БССР стварыў адмысловую камісію, якая на працягу 3-х месяцаў мае «распрацаваць парадак афіцыйнай часткі пры шлюбах, рэгістрацыі нованароджаных, выдачы пашпартоў» і іншых падзеях.

У прапагаваньне і праводжаньне гэтых казённых сьвятаў і абрадаў Савет Міністраў БССР упрагае ўвесь дзяржаўна-прапагандовы апарат: мясцовыя саветы дэпутатаў, міністэрствы гандлю, культуры, аховы грамадзкага парадку, пісьменьнікаў, кампазытараў, друк, радыё, тэлевізію, кіно. Можна сабе ўявіць, колькі гэтая прапагандовая кампанія будзе каштаваць народных грошаў, цяжка запрацаваных тымі, на кім партыйныя шаманы ўздумалі рабіць свае зьдзеклівыя экспэрымэнты.

Але гэта ўжо ня першая такая кампанія. Звычайна яны правальваюцца так хутка, як зьяўляюцца. Тое, што ня вырасла само з народнае душы, а накідаецца сілай адміністрацыйнага загаду, ніколі на станецца запраўды народным. Беларускі народ перажыў шмат розных акупацыяў і выцярпеў шмат розных адміністрацыйных распараджаньняў, і ніводнае з гэтых распараджаньняў не ўвайшло ў ягоную духовую скарбніцу. Затое, выпешчанае пакаленьнямі — жыве й сёньня. Ня гледзячы на дзяржаўны перасьлед, беларускі народ і сёньня адзначае ўсе важнейшыя рэлігійныя сьвяты. Вось і ў тэтым годзе селькоры сыпалі паведамленьні ў газэты, што на Вялікдзень навет актывістыя ня выходзілі на калгаснае поле. А гэта **значыць, што** наш народ **мае** свае сьвяты й абрады, і ніякія казённыя эрзацы яму не патрэбныя.

**А. З.**

---

Аб шчырасьці слоў Пілсудзкага не даводзіцца гутарыць. У кажным выпадку была пастаўлена стаўка на акцыю Аляксюка.

*14. Акцыя Аляксюка*

Р. Аляксюк у беларускім вызвольным руху ведамы ад часоў расейскай рэвалюцыі 1917. Ён адзін зь першых увайшоў у Беларускі Нацыянальны Камітэт, які быў утвораны 27 **сак.** 1918 г. ў Менску. Па прафэсіі ён адвакат, хутка даўся пазнаць, як карыерысты. У Горадні ён быў старшынёй Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны. Пасьля прыезду Пілсудзкага ў Горадню Палякі пастанавілі выкарыстаць яго для сваіх ранейшых намераў: легальнага прыкрыцьця анэксіі Горадзеншчыны быццам згодна з «воляй» беларускага насельніцтва, гэта ёсьць дапяць таго самага, што ім не ўдалося пры дапамозе Цьвірка-Гадыцкага. Пілсудзкі, мабыць, паказваў гэтага «салаўя» і альянцкім прадстаўнікам, якія былі тады зь ім у Горадні.

Такім чынам на працягу першай палавіны чэрвеня 1919 г. ў Горадні йшло мантаваньне новай авантуры з Аляксюком на чале. Пакуль гэтая акцыя наладжвалася — было зацішша. Заняткі ў Палку адбываліся бяз зброі, арыштаваныя былі павыпусканыя, беларускія арганізацыі і ўстановы далей дзейнічалі.

Прыблізна 20 чэрвеня 1919 г. Аляксюк склікаў прэзыдыю Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны з мэтай вырашэньня пытаньня аб пасылцы ў Варшаву да польскага ўраду беларускай дэлегацыі. Нараду і далейшыя мерапрыемствы гэтак апісвае С. Якавюк, удзельнік нарады і сябра Прэзыдыі:

«Калі разглядалася гэтая справа, на нарадзе Прэзыдыі Рады былі: Аляксюк, Фохт, Зенковіч і я.

«Чытаў даклад у названай справе Аляксюк, які стараўся ў вельмі прыгожых словах, падтрымаць думку, каб як найхутчэй выслаць дэлегацыю (у Варшаву) і даручыць ёй, каб яна высьніла адносіны польскага ўраду да нашага палітычнага жыцьця й дзейнасьці беларускіх арганізацыяў. За гэтую дэлегацыю выказаліся Аляксюк, Зенковіч і Фохт, а я паставіў пытаньне аб тым, што такой дэлегацыі нельга высылаць ад імя Прэзыдыі, бо гэтая справа павінна быць вырашана Радай на пленуме. На гэта Аляксюк, Зенковіч і Фохт перагаласавалі і бальшынёй трох супроць аднаго, пастанавілі дэлегаваць трох прадстаўнікоў Рады ў Варшаву.

«Пасьля гэтага вытварылася сьмешная сытуацыя: паслаць трох, і тыя-ж тры галасавалі за гэта. Тады яны дакааптавалі ў Прэзыдыю Вернікоўскага і выбралі: Аляксюка, Зенковіча і Вернікоўскага. Такім чынам Фохт адзін іх выбраў, адзін ім пісаў мандаты і адзін падпісываў.

«Аб выезьдзе дэлегацыі я павядоміў: Беларускую Ўправу, «Бацькаўшчыну» (газэта), Духоўны Зьвяз, Аддзел Уцекачоў, Настаўніцкае Сабраньне і камітэты: чыгуначнікаў, пачтовых і шасовых дарогаў. На агульным сабраньні арганізацыі вынесьлі станоўкі пратэст супраць такога самазванага паступку прэзыдыі Цэнтральнай Рады Горадзеншчыны, і дачурылі мне зрабіць Вам (Міністру Бел. Спраў) даклад аб тым, што ўсе Горадзенскія беларускія арганізацыі ўважаюць гэтую «дэлегацыю» няпраўнай, а ўсе заявы ёй зробленыя — незаконнымі, ды прасіць Вас пераслаць гэты наш пратэст каму патрэбна. Прадстаўнік названых арганізацыяў С. Якавюк».[60]

«Дэлегацыя» Аляксюка ў Варшаве дамовілася аб супрацоўніцтве. Палякі за адным замахам хацелі **забіць два зайцы**: далучыць да Польшчы Горадзеншчыну й Віленшчыну. Дзеля гэтага даручылі Аляксюку склікаць у Вільні «кангрэс» Горадзеншчыны й Віленшчыны, які-б падаў голас аб далучэньні гэтых зямель да Польшчы.

Такі «кангрэс» быў зарганізаваны ў сярэдзіне ліпеня 1919 г. Да яго праводзілася прапагандовая й паліцыйная падрыхтоўка. За варшаўскія грошы Аляксюк у Горадні выдаваў газэту «Крыніцу» у палянафільскім напрамку. Польская жандармэрыя ў міжчасе (на пачатку ліпеня) арганізавала ноччу «бандыцкі» напад на старшыню Горадзенскай Управы Аўгена Курлова ў ягоным маёнтку каля Горадні. «Бандыты» застрэлілі Курлова, а ягонага сына цяжка ранілі, не кранаючы ніякай маемасьці.

16 ліпеня 1919 у Горадні Палякі арыштавалі і вывезьлі ў Варшаву пратаерэя Івана Корчынскага, актыўнага дзеяча і сябру Тарыбы (ад Беларусаў).[61] Палякам здавалася, што гэтыя асобы, дзякуючы сваім аўтарытэтам у народзе ды выразнай антыпольскай паставе, будуць перашкодай у падрыхтоўванай Аляксюковай акцыі.

Віленскі «кангрэс» аднак перакрэсьліў махінацыі Палякаў. Зьехалася каля 150 чалавек з Горадзеншчыны й Віленшчыны, сярод якіх бальшыню тварылі беларускія настаўнікі.[62] Кангрэс адхіліў намеры Палякаў аб далучэньні Горадзеншчыны й Віленшчыны да Польшчы, выбраў новую Управу Цэнтральнай Рады, у якую не ўвайшлі Аляксюк, Вярнікоўскі і іншыя палянафілы. Антонаў піша: «Ад гора няўдачы пан Аляксюк плакаў». «Вярнікоўскі, прыехаўшы ў Вільню на кангрэс ужо з усімі сваімі рэчамі, каб заняць постань міністра, і пан Аляксюк прымушаны былі вярнуцца да свайго старога разьбітага карыта — беларускага клюбу «Хатка» ў Горадню».[63]

Няўдача акцыі Аляксюка, а разам з гэтым і Палякаў, выклікала жудасную хвалю рэпрэсіяў і арыштаў Беларусаў у Горадзеншчыне й Віленшчыне.

*15. Рэпрэсіі з боку Палякаў.*

У другой палавіне ліпеня 1919 г. пачалася жудасная хваля тэрору і расправаў зь беларускім нацыянальным рухам у Горадзеншчыне й Віленшчыне з прычыны яго стойкасьці на незалежніцкіх асновах.

Вось дакумантальныя дадзеныя аб становішчы на занятых Палякамі землях:

З рапарту Радзялоўскага (25 ліп. 1919) Беларускаму Міністру ў Коўні аб парадках у Беластоку й Беласточчыне:[64]

«Беласток замёр. Горад, каторы кіпеў пры Рускіх і часткова пры Немцах — поўнасьцю заціх. З прыходам польскіх войскаў, Палякі абнаглелі да крайнасьці. Улада, на чале якой стаіць прэзыдэнт (мабыць — бурмістр) Пухальскі, у першую чаргу забараніла друкаваць на беларускай, расейскай і нямецкай мовах усякія брашуры, аб'явы, афішы і г. д., не адважыўшыся адразу зачыніць старую газэту «Голас Беластоку», выдаваную некаторы час пасьля заняцьця Беластоку на расейскай мове. Цяпер і гэтая газэта закрыта. Ва ўсіх установах забаронена гаварыць на названых вышэй мовах...

«Мясцовае насельніцтва ў вялізарнай бальшыні — Беларусы, але аб гэтым гаварыць небясьпечна, так як пабеларуску й парасейску, бо можна папасьці ў «маскалі й бальшавікі»... Беларусаў на службе ў Палякаў і верных ім няма. Выключэньне твораць толькі два чалавекі: б. паліцэйскі начальнік сьледчага аддзелу Сьцяпанаў, які цяпер глуміць непалякаў, і Ўладзімір Зенковіч, што быў прымазаўся да Беларусаў у Горадні, і каторы цяпер апублікаваў у мясцовых газэтах, што ён з Горадзенскай Беларускай Радай нічога ня мае супольнага, хоць лічыцца сябрам Рады, і просіць уважаць яго за выбыўшага з Рады».[65]

Аб становішчы ў Горадні даведваемся з рапарту Міхася Сарокі, сябры Горадзенскай Сялянскай Рады, які ўцёк у Коўню і 31 ліпеня 1919 **г. паведамляў:**

# Шансы для працаўнікоў культуры

Нядаўна газэта «Правда» апублікавала вялікі артыкул пісьменьніка Канстанціна Сіманава, зьвернуты да кіраўніцтва кітайскай кампартыі. Зьмест артыкулу зводзіцца ў асноўным да таго, што ўсе савецкія камуністыя і ўсе савецкія людзі цалкам падтрымліваюць кіраўніцтва КПСС у спрэчцы з кітайскімі камуністымі. У артыкуле гаворыцца:

«Кіраўніцтва нашай партыі, пасьлядоўна й прынцыпова баронячы генэральную лінію сусьветнага камуністычнага руху, адкідаючы вашы спробы выкрывіць марксызм-ленінізм і раскалоць сусьветны камуністычны рух, гаворыць з вамі ад нашага агульнага шматмільённага імя. Яно (гэта значыць кіраўніцтва КПСС) мае на гэта неадлучнае й неаспрэчнае права, яно мае на гэта наш аднадушны давер», – піша, зьвяртаючыся да кітайскага кіраўніцтва, Сіманаў.

Сіманаў – пакуль-што першы прадстаўнік савецкай творчай інтэлігенцыі, які выступіў з крытыкай кітайскага кіраўніцтва. Вельмі праўдападобна за ім пойдуць і іншыя. І зьяўленьне гэтага артыкулу – гэта ўскоснае пацьверджаньне нядаўных паведамленьняў некаторых заходніх карэспандэнтаў аб тым, што кіраўніцтва КПСС зьвярнулася да савецкай інтэлігенцыі з заклікам улучыцца ў ідэялягічнае змаганьне супраць кітайскіх камуністых.

Паводля паведамленьня заходняй прэсы, з такім заклікам зьвярнуўся да савецкіх пісьменьнікаў і іншых дзеячоў літаратуры і мастацтва сакратар ЦК КПСС Леанід Ільічоў на двухдзённай нарадзе ачольванай ім ідэялягічнай камісіі. Гэтая нарада адбылася праўдападобна 15 і 16 травеня. У савецкай прэсе паведамленьняў аб гэтай нарадзе ня было.

Карэспандэнт лёнданскай газэты «Таймс», спасылаючыся на паінфармаваныя маскоўскія колы, пісаў, што гэтая нарада была скліканая на просьбу прадстаўнікоў савецкай інтэлігенцыі, якія дамагаюцца большай свабоды творчасьці. У тэй-жа карэспандэнцыі гаворыцца, што Ільічоў быццам абяцаў пайсьці на сустрач пажаданьням творчай інтэлегенцыі, але, із свайго боку, дамагаўся ад інтэлігенцыі супрацоўніцтва ў антыкітайскай кампаніі, праводжанай Крамлём.

Падкрэсьліваем: усё гэта неафіцыйныя і пакуль-што не правераныя весткі. Але, як кажа прымаўка, дыму без агню ня бывае, а артыкул Сіманава ў «Правде» дае падставы прыпушчаць, што партыйнае кіраўніцтва мае намер мабілізаваць пісьменьнікаў на змаганьне з кітайскай прапагандай.

Нічога дзіўнага й нечаканага ў гэтым, зразумела, няма. «Інжынерам душаў» ужо ня раз даводзілася ўлучацца ў розныя кампаніі, разгортваныя кіраўніцтвам КПСС. Ад пісьменьнікаў дамагаліся ствараць гераічныя творы і аб цаліне, і аб жывёлагадоўлі, і аб сямігадовым пляне. У свой час іх заклікалі пісаць аб розных дывэрсантах і іншых ворагах савецкай дзяржавы. Апошнім часам на Беларусі зьявілася запар некалькі «раманаў» супраць «буржуазных нацяналістых». Чаму-ж цяпер не запатрабаваць ад іх твораў аб гэраічным змаганьні КПСС з «кітайскімі раскольнікамі». Урэшце-рэштаў, кіраўніцтва КПСС шмат разоў, у тым ліку і ў сакавіку мінулага году, зусім адкрыта заяўляла, што яно зусім не зацікаўленае ў мастацтве для мастацтва, а глядзіць на яго, як на адзін із сродкаў прапаганды й агітацыі.

Цікавае ў гэтай гісторыі іншае, а менавіта чуткі аб тым, што гэтым разам і прадстаўнікі інтэлігенцыі выставілі свае дамаганьні большай свабоды. І калі гэта запраўды так, дык трэба сказаць, што яны не маглі выбраць больш выгаднага мамэнту, бо Масква, у сваіх спрэчкай з кітайскімі камуністымі, бязумоўна мае патрэбу ў прапагандовай падтрымцы. А антыкітайскія выступступленьні – гэта, зразумела, не вялікая цана, якую за пэўнае пашырэньне свабоды творчасьці можна заплаціць – тым больш, што бальшыня савецкіх творчых працаўнікоў могуць, ня крывіўшы душой, асуджаць некаторыя пазыцыі Пэкіну.

# Апраўданьне каланізатараў

(Заканчэньне з 3-яй бач.)

рыторыяў застаюцца ў распараджаньні «цэнтру», як гэта маем у СССР.

Далей уявім сабе, што народы гэтых калёніяў у выніку палітыкі асыміляцыі — аднэй з асаблівасьцяў камуністычнага каляніялізму — стаюць перад небясьпекай цалкам «растварыцца» ў катле партугальскага народу і страціць сваё нацыянальнае аблічча і сваю самабытнасьць.

Пытаемся — ці не назвала-б савецкая прапаганда такі рэжым імпэрыялістычным і каляніяльным? Напэўна, так! Пагадзіліся-б народы Анголі й Мозамбіку з такім падпарадкаваным палажэньнем? Зразумела, не! А калі гэта так, дык чаму-ж народы савецкіх рэспублік, якія здольныя самастойна кіраваць сабой і зь якімі народы Анголі і Мазамбіку ня могуць раўняцца ў ніводнай галіне, павінны пагадзіцца з аналягічным палажэньнем?!

Ня выпадкова, што пытаньне аб савецкім каляніялізьме было тэмай абмеркаваньня цэлага шэрагу міжнародных нарадаў, у тым ліку й Бандунгскай канфэрэнцыі афрыканска-азіяцкіх краінаў і сэсіі Генэральнай Асамблеі ААН. Маладыя народы Азіі і Афрыкі што раз лепш усьведамляюць каляніяльную палітыку Масквы. Гэтым тлумачыцца й той факт, што «прадстаўнікі» афрыкаска азіяцкіх краінаў на Бакінскай канфэрэнцыі ня выявілі ніякага энтузіязму да заклікаў савецкіх агітатараў насьлядоўваць «дасьветчаньне» савецкіх рэспублікаў.

*З радыёвай хвалі «Свабода»*

# У БССР беларуская мова дыскрымінуецца далей

Калі замоўклі стрэлы й патухлі пажарышчы першай сусьветнай вайны, бальшавіцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны ў былой царскай імпэрыі, некаторыя Беларусы паверылі рэвалюцыйным лёзунгам і абяцанкам бальшавікоў. Яны паверылі, што нацыянальнае пытаньне нарэшце будзе разьвязанае, беларуская нацыя будзе раўнапраўным сябрам сярод іншых нацыяў сьвету, беларуская мова вольна загучыць на прасторах Беларусі, беларускае дзіцё будзе вучыцца ў школе ў сваёй роднай мове, беларускі студэнт — у беларускіх вышэйшых навучальных установах.

Больш за дзесяткі гадоў мінула з таго часу. Ня збыліся спадзяваньні тых, што ў той час паверылі бальшавіком. Ня збыліся ў шмат-шмат якіх галінах. Возьмем школьніцтва. Асабліва сярэдняе й вышэйшае. У Беларускай ССР яно замiж быць беларускім, нажаль, у бальшыні зьяўляецца расейскім. Мо найбольш яскравым прыкладам гэтага зьяўляецца Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт. Ня будзем галаслоўнымі. На старонках беларускай савецкай прэсы падаваліся ўжо ўмовы прыйма студэнтаў у БДУ на наступны акадэмічны год. У аднэй з такіх абвестак мы бачым умовы прыйма на завочны факультэт гэтага ўнівэрсытэту ў наступных спэцыяльнасьцях: беларуская мова й літаратура, расейская мова й літаратура, журналістыка, філязофія, гісторыя, праваснаўства, матэматыка, біялёгія, геаграфія.

Прыгледзімся крыху бліжэй да гэтых умоваў. Тое, што кандыдаты на аддзелы беларускай мовы й літаратуры ды расейскай мовы й літаратуры павінны здаваць уступныя экзамены зь беларускай ці расейскай мовы – гэта зусім зразумела. Але вось ёсьць і такі пункт, у якім гаворыцца, што паступаючыя па спэцыяльнасьці філязофія, гісторыя, правазнаўства — здаюць экзамены з расейскай мовы й літаратуры. Беларуская мова не забавязвае. І далей (дaслоўна): «Паступаючыя па спэцыяльнасьці матэматыкі, біялёгіі і геаграфіі, пасьля здачы экзаменаў з гэтых дысцыплінаў здаюць уступныя экзамены з расейскай мовы і літаратуры.» Аб беларускай мове – ні слова.

Ці-ж гэта ня кур'ёз? Пры прыйме ў **Беларускі** Дзяржаўны Універсытэт вымагаецца пэрфэктнае веданьне расейскай мовы, але зусім не забавязвае веданьне мовы рэспублікі — беларускай. Няўжо на адзіным унівэрсытэце гэтак званай сувэрэннай БССР такія дысцыпліны як філязофія, гісторыя, правазнаўства, матэматыка, біялёгія, геаграфія могуць вывучацца толькі ў расейскай мове? Няўжо беларуская мова ня мае ў гэтых прадметах свае ўласнае тэрміналёгіі?

А вось найбольшы кур'ёз. На заканчэньне гэтых умоваў прыйма ў унівэрсытэт падкрэсьліваецца (цытуем): «Пры роўнасьці агульнай колькасьці балаў па прафіліруючых дысцыплінах пераважным правам на залічэньне карыстаюцца асобы, якія маюць лепшыя ацэнкі на ўступных экзаменах па расейскай мове і літаратуры». А беларуская мова? Ні слова аб ёй.

У сувязі з гэтым уявім сабе такое палажэньне: вось адзін кандыдат вучыўся ў сярэдняй **беларускай** школе, дзе расейкая мова была толькі прадметам. Другі — у сярэдняй школе з **расейскай** мовай навучаньня, або, скажам, прыехаў з Расейскай Фэдэрацыі. Абодва здаюць экзамены на аддзел філязофіі. Абодва атрымоўваюць аднолькавую колькасьць балаў. Але, зусім зразумела, той хто вучыўся ў расейскай школе, ведае крыху лепш расейскую мову і таму першы адкідаецца, а ён прыймаецца ў унівэрсытэт. У Беларускі Ўнівэрсытэт! Таму, што лепш ведае расейскую мову! Ці-ж гэта ня дыскрымінацыя беларускай моладзі, якая канчае **беларускія** сярэднія школы? Ці-ж гэта не ганебны мэтад рабленьня ўплыву на беларускую моладзь, каб яна вучылася ў расейскіх школах, бо тады больш шансаў пры наступленьні ў унівэрсытэт? У Беларусі Ўнівэрсытэт!...

Дарэмна тады савецкія прапагандыстыя імкнуцца давесьці, што БССР — беларуская сувэрэнная рэспубліка, што русыфікацыя ў ёй – гэта, быццам-бы, выдумка буржуазных нацыяналістых. Факты гавораць самі за сябе.

Добра адно, што шмат беларускай моладзі разумее гэтую нацыянальную небясьпеку ў форме накіданай крамлёўскім кіраўніцтвам русыфікацыі. Яна вывучае расейскую мову — чым больш моваў чалавек ведае, тым лепш, – але не забывае і свае роднае мовы, ведаючы, што яна — адна з асноваў існаваньня беларускай нацыі.

# Юбілей Антона Бялевіча

Апошнім часам няспынна адзін за адным адзначаюцца юбілеі пісьменьнікаў, драматургаў, артыстых. Вось нядаўна споўнілася 50 год паэту Антону Бялевічу. Ён — прадстаўнік тэй пісьменьніцкай пляяды, якая пачынала сваю творчую дзейнасьць у 1937 годзе.

Гэта быў год жудаснага крывавага тэрору. У той час пракацілася шырокая хваля арыштаў. Дом пісьменьнікаў у Менску прыкметна сірацеў. Тады загінулі ў савецкіх турмах навет такія «пралетарскія» пісьменьнікі як Цішка Гартны і Міхась Чарот. Вайны ня было, гарматы ня грукацелі, але муза змоўкла. На літаратурным парнасе забуяла пустазельле. І ўсё-ж такі ў гэтым пустазельлі паказаліся краскі...

Антон Бялевіч адразу выявіўся сваёй паэзіяй — простай, жывой, эмацыянальнай лірыкай. І хоць ягоны паэтычны сьвет звужаны вакол родных мясьцінаў – вёскі Дуброўкі і Лаўскага лесу, – тым ня менш ён захапляе чытача, абуджае ў ім пачуцьці любові да ўсяе Беларусі. Можа гэтая акалічнасьць і выклікала абурэньне ўра-марксыстых. Крытыкі, навет пасьля сьмерці Сталіна, часта нападалі на Бялевіча. Яны абвінавачвалі паэта ў ідэялягічных ухілах за ягоную «тэрытарыяльную абмежаванасьць», за вузкі каляры.

Паэт перажыў цяжкія часы, перацярпеў цкаваньні й лаянкі крыкуноў. Ён ня зыйшоў з свайго шляху, не заглушыў лірычнага голасу. Пражытае паўстагодзьдзе пакінула сьлед. Цяпер паэта вітаюць. Аб ім пішуць...

Паэт Вялюгін у артыкуле, прысьвечаным юбіляру, ужо адным загалоўкам добра сказаў: «З Дуброўкі краіна відна».

Тут варта яшчэ падаць і адзін сказ з артыкулу:

«Сьвет творчасьці павінен быць імена тваім, з толькі табе вядомымі, блізкімі сьцежкамі й прасёлкамі, вуліцамі й дарогамі, дзе можна сустрэцца, пазнаёміцца не з адным цікавым лёсам, у якім разгледзіш штосьці й сваё, даўно адчутае, але часам яшчэ не акрэсьленае думкай».

Паэзія Антона Бялевіча мае такі сьвет. Паэт заўсёды, дзе-б ён ні быў, пісаў і піша пра сваю родную Дуброўку.

Першы паэтычны зборнік Бялевіча «Чалавек з дубровы» быў перакладзены ў расейскую мову і выдадзены ў Маскве. Ад таго часу мінула 20 год. Выдадзена 26 кнігаў, напісана ім 20 паэмаў.

Вершы Антона Бялевіча мілагучныя, песенныя. Кампазытары ў Беларусі, а таксама і на эміграцыі, маюць вялікі выбар зь ягоных твораў. Вершы Балевіча блізкія да беларускага фальклёру, багатыя мастацкімі народнымі вобразамі, лёгка ўспрыймальныя. Антон Бялевіч уваходзіць цяпер у фазу найбольшага разьвіцьця свайго таленту. Ягоная лірыка стаецца глыбокай, удумлівай.

Мы спадзяемся, што больш не паўторацца напады савецкіх крытыкаў на паэта. Няхай застаецца спакой не часовы, а сталы. Няхай лірыка зойме пачэснае месца.

Беларускі чытач любіць творы Антона Бялевіча і жадае яму далейшых творчых посьпехаў.

К. Р.

---

**«У Горадні ад 16 сьнежня 1918 г. я быў сябрам Горадзенскай Сялянскай Рады. Ад пачатку польскай акупацыі Горадні я там быў бязвыхадна да 21 ліпеня 1919 г., — гэта ёсьць да дня маіх уцёкаў у Коўню ад польскай тайнай паліцыі, што шукала мяне, як мясцовага беларускага дзеяча.**

**«Агульная палітыка польскай акупацыйнай улады вызначаецца ў адносінах да беларускага насельніцтва жудаснай лютасьцяй. Польскія ніжэйшыя органы мясцовай улады і жандары бяскарна і без прычыны праводзяць арышты ня толькі знатнейшых беларускіх дзеячоў, але й тых асобаў, якія падазраюцца ў схільнасьці да беларускасьці...**

**«Адносіны польскіх вайсковых уладаў у Горадні да беларускіх ахвіцэраў 1-га Палка таксама абураючыя й незайздросныя. Узяўшы ад іх расьпіску аб нявыезьдзе з м. Горадні, акружыўшы іх сеткай вайсковых і цывільных агентаў і шпіёнаў і адрэзаўшы іх ад усякай лучнасьці зь Літоўскім (чыт. Жамойцкім) Міністэрствам Абароны і Міністрам Беларускіх Спраў, яны паставілі іх у нявыносныя матарыяльныя ўмовы, проста, галадаць, каб карыстаючыся іх цяжкім становішчам, змусіць іх на зламаньне прысягі і на пераход на польскую службу.**

«Прасьледуецца польскай адміністрацыяй як у Горадні, так і мястэчках усякая нацыянальная беларуская дзейнасьць. Зачынены польскімі ўладамі Цэнтральная Рада Горадзеншчыны ў Горадні і беларускія валасныя нацыянальныя Рады у Вазёрах, Скідалі, Вярцелішках, Новым Двары, Мастах, Малой Бераставіцы, Вялікай Бераставіцы, Галынцы, Бэрштах, Малахоўцах, Крэліках, Індуры і многіх іншых мясцовасьцях. За нацыянальную дзейнасьць арыштаваныя беларускія грамадзкія дзеячы: пратаерэй Карчынскі, Ф. Грыб, П. Мядзёлка, Фохт, Г. Казячы, Мышко, Кашэўнік, Ляхоўскі, Данілюк, Дзекуць-Малей і рад іншых, прозьвішчаў якіх ня памятаю. Старшыня Беларускай Сялянскай Рады Маркевіч ужо больш двух тыдняў хаваецца ад польскіх уладаў, якія шукаюць яго за дзейнасьць у выдаваньні й распаўсюджваньні беларускай газэты «Родны Край». Закрытыя і іншыя 4 беларускія газэты. Мяне, Міхася Сароку, Палякі ў апошнім часе сталі шукаць з мэтай арышту за маю нацыянальна-беларускую дзейнасьць у Цэнтральнай Радзе Горадзеншчыны і Беларускай Горадзенскай Павятовай Сялянскай Радзе...»[66]

Рапарт Міхася Сарокі дапаўняюць іншыя матарыялы. Так палк. Усьпенскі (1 жніўня 1919) сьцьвярджае:

«За апошнія дні арыштаваныя ў Горадні Палякамі: архіяпіскап Горадзенскі й Беластоцкі Уладзімір, сябра Тарыбы — пратаерей Карчынскі, намесьнік Беларускай Краёвай Управы — Усевалад Боеў, беларускія дзеячы: спадарства Марозавы, браты Сарокі, палк. Антонаў, ахвіцэр Фохт і многія іншыя. Адным ахвіцэрам Палякам было мне перададзена у тайніцы, што ў новым сьпіску асобаў, якія маюцца быць арыштаванымі, знаходзіцца многа ахвіцэраў, у тым ліку прозьвішча б. камандзіра Палка Езавітава, маё, як яго намесьніка, кап. Калугіна і яшчэ некалькіх ахвіцэраў, усяго 10 чалавек. Усіх арышта ваных Палякі маюць намер пасьля арышту вывесьці ў Кракаў.

«Усе стараньні палк. Антонава аб дазволе выехаць ахвіцэрам у Коўню дасюль бязрэзультатныя. Толькі некаторым ахвіцэрам дазволіў камандант крэпасьці прасіць пропускаў у армію Юдзеніча.

«Палажэньне ахвіцэраў, затрыманых Палякамі ў Горадні, скрайня цяжкое. Быў выпадак хваробы на тыф, з голаду, быў выпадак спробы самагубства. У апошні дзень была атрымана тэлеграма з Варшавы: «выдаваць жолд ахвіцэрам паводля палоннай стаўкі» «каля 100 марак у месяц). Голад і пагроза новых арыштаў прасьледуюць. Адначасова Палякі іх ціснуць, каб пераходзілі ў легіёны. Трох мне ведамых на гэта згадзілася: 1) старшы ад'ютант каманданта м. Горадні — ахвіцэр Жэмла, які перайшоў у кавалерыйскі полк «Татарска язда»; 2) штабротмістр Рыхтар, прыняўшы каталіцтва і паступіўшы у той-жа полк і 3) капітан Загорскі, быўшы камандзір нестраявой роты Палка, які быў адхілены ад свайго становішча за растрату, паступіў да Палякаў на службу ў Горадзенскі Камісарыят у аддзел тайнай паліцыі. Гэты чалавек прынёс многа зла Палку, наладжваючы вобыскі й арышты тых асобаў, якіх ён лічыў сваімі ворагамі.

«Іншыя ахвіцэры Палка і быўшай Камандантуры далей верныя сваёй законнай уладзе і чакаюць на збаўленьне з Коўні...»[67]

А вось рапарт ппар. Г. Казячага і ппар. Г. Мышкі з 14 жн. 1919 г.

«Надыходзіла вясна 1919 г. а разам зь ёй набліжаліся на Горадзеншчыну з аднаго боку бальшавікі, а з другога Палякі.

«Жудасныя хвіліны перажывала насельніцтва. Тыя, што былі ў Расеі, ведалі добра, што такое бальшавізм, а разам з гэтым голад, поўная ваенная разруха. Насельніцтва такжа разумела й тую неясьпеку, якую нясьлі Палякі.

«Усе ўцекачы з савецкага раю, яшчэ ў 1918 г. ўзяліся за арганізацыю галадаючага насельніцтва, што вярнулася на бацькаўшчыну. З дазволу нямецкіх уладаў, амаль усюды, на тэрыторыі воласьцяў, паўсталі валасныя ўправы (камітэты) якія перш за ўсё ўзяліся за арганізацыю па танных цэнах (з дазволу нямецкіх уладаў) збожжа й семя для пасеваў ды земляробскіх снадзіваў дзеля адбудовы зьнішчанай гаспадаркі. Асабліва ўдачна разгарнулася праца, калі ў Горадню пераехала Беларускае Міністэрства з Міністрам Беларускіх Справаў І. Я. Варонкай на чале. Ува усіх радзілася надзея на лепшую будучыню, упэўненасьць у собскія сілы. Зьявіліся газэты на роднай беларускай мове, сталі адчыняцца школы, шпіталі, каапэратывы... Цэлымі грамадамі людзі пацягнуліся ў Горадню, да свайго Міністэрства, беларускія дэпутаты і дэлегацыі, што шукалі ў сваім урадзе пацехі й падтрымкі ў бедах ды аховы ад нахлыну польскіх паноў, уздымаўшых галавы ўсё вышэй і вышэй у меру пранікаеньня польскіх войскаў у Горадзеншчыну.

«Першыя аддзелы польскай арміі, уступіўшыя ў Горадзеншчыну, яшчэ ў некаторай меры лічыліся з «самабытнасьцю Беларусаў» (паколькі камандзіры іх былі самі Беларусамі-католікамі). Навет часова не чапалі Камітэтаў. Але вось нахлынула з «Кангрэсувкі» «шчырая» польская жандармэрыя і пачаліся арышты. Тут кажнае слова дзеячоў Горадзеншчыны, сказанае пад адрысам Польшчы, было прыпомнена (шпіёнаў аказалася дастаткова) ды паслужыла за прычыну арышту. А усё гэта вынікала з таго, што людзі задумаліся аб Бацькаўшчыне і захацелі яе самастойнасьці...»

«Мы ў бруднай Ваўкавыскай турме. Колькі тут народу! І усе галоўным чынам Беларусы з Горадзеншчыны. Невялікія брудныя каморкі па 12 аршынаў, а ў іх па 20—30 і больш чалавек. Тут і мужчыны й жанчыны. Днём некаторых ганяюць недзе на работу, у каморках тады крыху свабадней, але вечарам, калі ўсе вернуцца — проста недзе стаяць, а ўжо няма мовы, каб сядзець. Ноччу палавіна сьпіць, рэшта або стаіць, або ляжыць на першых. У абсалютнай бальшыні арыштаваныя былі Беларусы — беларуская народная інтэлігенцыя: настаўнікі, б. ахвіцэры, псаломшчыкі, больш сьведамыя сяляне, стоячыя на чале сваіх грамадаў і арганізацыяў. Тут прадстаўнікі амаль кажнай воласьці Горадзеншчыны, пры

# Трымай злодзея!..

### (ХТО СКРАЎ КРЫЖ ЕЎФРАСІНЬНІ-ПРАДСЛАВЫ)

У савецкага пісьменьніка Тараса Хадкевіча, аўтара кніжкі «Моя Белоруссия» (Выдавецтва «Беларусь». Менск. 1963 г.) ёсьць адпаведны яму настаўнік і правадыр. Прынамсі, на старонцы 156-ай гэтае кніжкі ён, пераламіўшыся ў вернападданы гак, дае слова Мікіце Хрушчову, які з прычыны праекту пабудовы Чарнаморска-Балтыцкае воднае трасы праз Прыпяць і Нёман, урачыста абвяшчае:

«Толькі ўзімку, калі замерзнуць рэкі, мы вычуем патрэбу ў Дарданэлах і Гіблартару».

I прашу ўявіць сабе цяпер Гібральтар, які мае ўшырыню ад 14 да 44 кілямэтраў, а ў глыбіню да 1 181 мэтра, ці больш за кілямэтар. Гэта значыцца, што калі сучаснаму Нёману, ны падперш яго вялізнымі грэблямі, дадаць глыбіню Гібральтара, дык пад вадой зьнікне, крый Божа, уся Беларусь, якое вышэйшы пункт — Сьвятая гара — узвышаецца над паверхняй акіяну на 346 мэтраў. А калі паглыбіць ды пашырыць рэчышча Нёману й Прыпяці да глыбіні й шырыні таго-ж самага Гібральтару, дык вады ва ўсіх беларускіх рэках і вазёрах забракне, каб напоўніць да краёў выкапаную прорву, падобную да Вялікага каньёну Каларада.

Аб такіх параўнаньнях ня марылі ні барон Мюнхгаўзэн, ні Тартарэн з Тараскону, ні Хлястакоў. Таму няма нічога дзіўнага, што, ідучы ў сьлед за гэткім манюкам, як Мікіта Хрушчоў, Тарас Хадкевіч на старонцы 55-ай свае кніжкі, маючы на ўвазе сабор Сьвятое Сафіі ў Полацку, сьцьвярджае:

«...у ягоным сутарэньні, напярэдадні вайны, былі знойдзены фрэскі часоў першае пабудовы сабора».

— А да гэтае собскае вынаходкі на тае-ж шматпакутнай 55-ай старонцы дадае:

«За часы вайны крыж Еўфрасіньні быў скрадзены гітлераўскімі захопнікамі».

У параўнаньні з гэтай бессаромнай хлусьнёй блякне навет глыбіня хрушчоўскага «Палескага Гібральтару».

У 1939-м годзе, аўтар гэтых радкоў, ачольваў акурат тую навуковую экспэдыцыю, якая, паводля Хадкевіча, знайшла ў сутарэньні Полацкае Сафіі старадаўнія фрэскі. Слоў няма, мы запраўды знайшлі пад тынкам цэнтральнае апсіды сабору фрэскі, але яшчэ задоўга да нас — у 1912 г. навуковец Паўлінаў — на тае-ж самае сьцяне, хоць і ў іншым ейным мейсцы, тож знайшоў іх. За тое аніякіх фрэскаў у сутарэньні, якое таксама дасьледвалі, каб удакладніць плян старое Сафіі, мы ня выявілі, дый ня шукалі іх там. Нашыя далёкія продкі былі даволі разумнымі, каб ня ўпрыгожваць высокамастацкімі фрэскамі звычайны й для іхняга часу падмурак.

Той, хто добра ведае савецкую рэчаіснасьць, добра-ж і зразумее, што ня ў стане была навуковая падсавецкая экспэдыцыя паставіць сабе галоўнай мэтай пошукі крыжа Еўфрасіньні-Прадславы. Прызначэньне гэтае экспэдыцыі, гаспадаром якое зьяўлялася «Кіраўніцтва па справах мастацтваў пры СНК БССР», вызначалася цалкам ейным назовам — «Экспэдыцыя па ахове помнікаў рэвалюцыі, гісторыі і мастацтва». Аднак удзельнікі экспэдыцыі ведалі пра крыж Еўфрасіньні-Прадславы, як выдатны помнік гісторыі, літаратуры й мастацтва.

I мы шукалі крыж Еўфрасіньні-Прадславы .Перадусім — у сучаснай яму паводля свайго паходжаньня царкве Сьвятога Спаса, у кельлі якое ён знаходзіўся на працягу стагодзьдзяў. Аднак нам дазволілі дасьледваць гэтую царкву толькі звонку, бо ўнутры яе знаходзілася сховішча «Военведа». Полацкі камандат, пад наглядам якога мы апынуліся каля царквы, даволі шчыра адзначыў:

«Вы не беспокойтесь, что не осматриваете внутренность этого здания. Мы оттуда все выбросили, а старые картины на стенах закрасили».

(Вы ня турбуйцеся, што ня аглядаеце гэты будынак унутры. Мы адтуль усё выкінулі, а старыя малюнкі на сьценах зафарбавалі).

Мы шукалі далей крыж Еўфрасіньні-Прадславы ў саборы Сьвятое Сафіі, прыстасаваным пад сховішча збожжа раённага «Заготзерно». Мы пазьней шукалі яго ў сакрэтных сховах гістарычных і мастацкіх музэяў Полацку, Віцебску, Магілеву, Менску, трапляючы туды праз фільтры «Особых отделов». А нашыя спробы даведацца аб ягоным лёсе ад палачанаў скончыліся выклікам у Полацкае раённае аддзяленьне «НКВД» і папярэджаньнем ягонага начальніка «таварыша» Міхайлава:

«Я советую вам прекратить поиски этого креста».

(Я раю вам спыніць пошукі гэтага крыжа).

За час вайны мне давялося нейкі час жыць у Полацку. Адпраўлялася Божая служба ў паруганай перад тым Сьвятой Сафіі. Да адчыненае зноў царквы Сьвятога Спаса ў бадай тысячагадовым жаночым Спаскім манастыры, зыходзіліся з усіх бакоў Наддзьвіньня былыя старыя манашкі, якія цудам захаваліся ад савецкага перасьледваньня. I вось нарэшце ад аднае зь іх я дазнаўся, што крыж Еўфрасіньні-Прадславы быў рэквізаваны супрацоўнікамі папярэдніх «НКВД» — «ГПУ» для патрэбаў «Фонда Индустриализации». Ужо пазьней, на чужыне, мне давялося пачуць, што гэты найсьвяты для Беларусаў крыж, нібы знаходзіцца цяпер у Швэцыі, у прыватнае калекцыі аднаго тамтэйшага мільянэра.

I хіба ня відавочна пасьля гэтага, што на пытаньне — Хто скраў крыж Еўфрасіньні-Прадславы? — можна адказаць толькі:

— Сталінскія захопнікі.

Аднак на тэй-жа старонцы 55-ай, дзе Тарас Хадкевіч хлусіць сваім чытачом пра фрэскі ў сутарэньні Сьвятое Сафіі і пра крыж Еўфрасіньні-Прадславы, нібы скрадзены гітляраўцамі, ёсьць даволі слушныя радкі, а ўласьне:

«Ня мелася, бадай, у старажытнарускае дзяржавы (?! — Юр. В.) такое нясупакойнае, такое, ужываючы сучасны тэрмін, нядысцыплінаванае зямлі, як зямля Полацкая. Князі полацкія або падбівалі Ноўгарад, або вялі бясконцавую спрэчку зь Кіявам, або на іх саміх, каб уціхамірыць, нападалі князі бадай усяе Русі. Зразумела адно, што зямля Полацкая была багатая й вычувала сваю моц, каб ня стацца дробным удзелам, пазбаўленым пэўнае аўтаноміі».

Пэўне-ж Тарас Хадкевіч ня разумее, або з прычыны свае падсавецкае абмежаванасьці ня ў стане зразумець, што калі старадаўнія палачане стала змагаліся з намерам чужаземных захопнікаў пазбавіць іх незалежнасьці, дык сучасныя хадкевічы ўхваляюць расейска-бальшавіцкі лад, які ператварыў Беларусь у дробны ўдзел Масквы. Але-ж акрамя калябарантаў хадкевічаў існуе беларускі народ, які зьяўляецца крэўным спадкаемцам вольналюбных палачанаў. Мы шчыра верым у тое, што ўрэшцерэштаў ён пераможа сваіх захопнікаў і створыць сваю незалежную дзяржаву, а тады знойдзе й свой нацыянальны скарб — крыж сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы, князёўны Полацкае.

**Юрка Віцьбіч**

# Газэтная штурмаўшчына

Штогоду ў БССР паўтараюцца скаргі на тое, што прапагандовая кампанія за пашырэньне ці аднаўленьне падпіскі на газэты і часапісы праводзіцца дрэнна. Сёлета «Чырвоная зьмена» ўдарыла таксама ў звон трывогі з прычыны таго, што беларускае насельнцтва неахвотна аднаўляе падпіску на пэрыядычны друк за другое паўгодзьдзя, а камсамольцы й партыйныя прапагандыстыя гэтую справу зусім занядбоўваюць, дрэнна арганізуюць прапагандну, дрэнна «пераконваюць» людзей у неабходнасьці аднавіць падпіску. У шматлікіх раёнах падпіска на пэрыядычны друк адноўленае толькі на шэсьць працэнтаў, у іншых — на 10 працэнтаў.

Пры гэтым, як відаць з газэты, часамі даходзіць да сьмешных кур'ёзаў. Жадаючы пазбыцца няпрыемнага абавязку і выканаць накінуты плян, некаторыя партыйныя й камсамольскія арганізацыі разьвязваюць справу падпіскі, ужываючы розныя хітрыкі. Вось адзін прыклад: «У Пінскім пэдагагічным тэхнікуме ў восьмай групе другога курсу, — піша «Чырвоная зьмена», — каб стварыць уяўнасьць актыўнай работы, афармлялі навучэнцам падпіску на дзіцячыя і раённыя газэты, а ў Купяцiцкай васьмігадовай школе Пінскага раёну падпісвалі дзяцей на часапіс «Крестьянка».

Можна было-б толькі пасьмяяцца з гэтай бязглуздай бюракратычнай штурмоўшчыны, калі-б гэты факт не характарызаваў да пэўнай меры агульных адносінаў насельніцтва да савецкай прэсы.

Штогоду, а то й два разы ў год праводзяцца такія кампаніі за пашырэньне савецкай прэсы, за аднаўленьне падпіскі, бо насельніцтва гэтай прэсай наагул ня цікавіцца.

Прычына ўсім ведамая. Савецкая прэса няцікавая. Яна ня інфармуе, а прапагуе партыйныя лёзунгі, вечна тыя самыя, якія ўжо знудзілі насельніцтву.

Першае месца,, а часам і адзінае, на старонках савецкіх газэтаў займаюць даўжэзныя, няцікавыя прамовы партыйных кіраўнікоў, прапагандовыя артыкулы, якіх ніхто ня чытае. Як ведама, Хрушчоў любіць шмат гаварыць. Але ці трэба ўсё, што ён сказаў, перадрукоўваць у газэтах?

Савецкая прэса прамоўчвае масу падзеяў і фактаў з савецкага і агульнапалітычнага жыцьця, або паказвае іх у крывым сьвятле. Возьмем, напрыклад, пытаньне савецка-кітайскага канфлікту. Гадамі цэлы сьвет аб гэтым гаворыць. Але савецкая прэса на загад партыі аб гэтым маўчала, і толькі калі Кітай пры дапамозе радыя, брашураў і лістовак пачаў даводзіць да ведама насельніцтву СССР свае пагляды, партыя палічыла патрэбным зьняць з гэтай справы «табу».

Можна ня сумнявацца, што калі-б на Беларусі было дазволена каму-небудзь выдаваць незалежную інфармацыйную газэту на заходні лад, у якой падаваліся-б весткі з усяго сьвету, весткі праўдзівыя, дык савецкія газэты засталіся-б наагул без чытачоў.

# «Культурныя сувязі»

I-га травеня прэса БССР апублікавала паведамленьне БЕЛТА, што ў Менску створанае «Таварыства па культурных сувязях з суайчыньнікамі за рубяжом». Нашы чытачы напэўна здагадваюцца ўжо, што гэта за «культурная» інстытуцыя Так, гэта спадкаемца сумнай славы «Камітэту за вяртаньне на радзіму», які, як ведама, не дасягнуўшы свае мэты, цалкам абанкроціўся і зыйшоў із сцэны, уступіўшы месца новай, больш лагоднай вывесцы. Больш тут фактычна не зьмянілася нічога: той самы Рыгор Шырма, Максім Танк і праславуты Прокша «ачольваюць» гэтую агентуру, каб і далей надаваць ёй «грамадзкі» характар. Праўда, хросныя бацькі «таварыства» магчыма й цяпер яшчэ вераць, што эмігранты не разьбяруцца й падумаюць, што тут адбыліся радыкальныя зьмены. Для стварэньня такога ўражаньня яны змабілізавалі ўсе свае атуты. На заснавальнае паседжаньне прыцягнулі ведамых навукоўцаў і культурных дзеячоў. Рэшту-ж сумлеваў у «гуманнасьці» намераў новапароджанай інстытуцыі меў, як выглядае. расьсеяць у эмігрантаў прысутны на паседжаньні архіяпіскап Менскі і Беларускі Сергій. Можна было-б падумаць, што паседжаньні ЦК КПБ пачынаюцца цяпер пасьля багаславенства архіяпіскапа...

Вось гэтая прыхватка з архіяпіскапам адразу й прыпячатала крывадушнасьць новай зацеі бальшавіцкіх бязбожнікаў. Нічога не паможа й тое, што «сувэрэннаму» прыдворнаму лакею Прокшу Масква дазволіла ператварыць сваю сэкцыю ў «незалежнае» «беларускае таварыства».

Культурныя сувязь?.. Які беларускі эмігрант быў-бы супраць сувязяў з сваімі суродзічамі на Бацькаўшчыне? Прокша можа адказаць, што кажны эмігрант можа адведаць сваіх родных на Беларусі. А ці можа Беларус з Бацькаўшчыны наведаць свайго суродзіча за граніцай? Такога яшчэ сьвет не перажываў.

Ня можа быць культурнага абмену без абмену літаратураў. Прокша можа высылаць заграніцу свайго «голасу» столькі, колькі яму падабаецца. Кажны эмігрант, калі яго гэта ня нудзіць, можа чытаць гэты «голас», колькі яму падабаецца. Чаму-ж Прокшавы гаспадары саджаюць яшчэ сёньня ў турмы тых, хто ў Беларусі чытае або распаўсюджвае эміграцыйныя выданьні.

Старшыня «таварыства» Рыгор Шырма кіруе выдатным беларускім харавым ансамблем. А выпусьцілі яго хоць раз заграніцу паказаць беларускае песеннае мастацтва? Ягоны хор з прыемнасьцяй паслухалі-б і беларускія эмігранты.

У сьвятле вось такога палажэньня дэклямацыі «таварыства» аб культурных сувязях з эмігрантамі нагадваюць, гаворачы словамі таго-ж Прокшы, запраўдны «брэх з падваротні».

# Дзе-ж правасудзьдзе?

Нядаўна ў газэце «Ізвестія» стары бальшавік зь Менску Пыжкоў прыгадаў **70-годзьдзе ад дня нараджэньня ведамага беларускага нацыянал-камуністага — Міколы Галадзеда. У часы «беларусізацыі» М. Галадзед быў спачатку другім сакратаром ЦК КП бальшавікоў Беларусі, а пасьля старшынёй Савету Народных Камісараў Беларусі.**

Пыжкоў піша, што **«у росквіце творчых сілаў у 1937-ым годзе** Мікалай Галадзед быў неабаснавана рэпрэсыяваны і стаўся ахвярай культу асобы». Цяпер-жа, маўляў, «сумленнае імя вернага ленінца адноўленае».

Добра, што хоць пасьмертна рэгабілітуюць некаторых людзей, зьнішчаных сталінскімі забойцамі. Але калі-ж стануць перад судом гэтыя забойцы, а іх тысячы ў Савецкім Саюзе, так, як гэта, напрыклад, робіцца зь гітлераўскімі злачынцамі ў Нямеччыне?

чым ад некаторых 3—5 і больш чалавек. Вось ляжыць на брудных нарах хворы, зьняможаны капітан Хомчык, што езьдзіў з Горадні ў Беласток для запісаў дабравольцаў у беларускую армію і быў арыштаваны Палякамі. Разам зь ім пабіты за ўцёкі з турмы ахвірэр Бэкеш; у куце — старшыня Ваўкавыскага Павятовага Камітэту Ляхоўскі ... у іншым куце — групкі сялян і сам старшыня гэтага камітэту — рухавы Данілюк ...»[68]

Дату польскай помсты на Беларусах падае Антонаў:[69] 18 ліпеня 1919 г. Ён падае такія прозьвішчы: Віцэ-старшыні Горадзенскай Беларускай Управы У. М. Боева, пратаерэя І. Карчынскага, Н. П. Марозава, С. Якавюка, справавода Аўдзеевіча, інжынера Бахановіча, сьвятара А. Аглобліна, генеральшу Пурыхаву, Самсонава, рэстаратара Грыцука, дамаўласьніка Якімовіча. Крыху раней былі арыштаваныя й інтэрнаваныя ў Беласток 79 чалавек, сярод іх: палк. Антонаў, палк. Беран, пар. Банданчук, б. губ. Галіцыі Бандарук, яго жонка, Гор. паліцмайстра — Балдоўскі, юнкер Балдоўскі, служыўшы у Беларускім Палку, палкоўнік артылерыі Іваніцкі, Ларыш, кап. Лапін, наст. Антонаў.[70]

Агулам апынулася ў турмах і канцэнтрацыйных лягерах больш 2-х тысяч Беларусаў з Горадзеншчыны і Віленшчыны.

«Унікалі ад арыштаў, аграбленьняў і высылкі ў турмы і лягеры, — піша Антонаў, — толькі тыя, у каго меліся «пасьведчаньні» аб добранадзейнасьці, выданыя польскімі ксяндзямі.

«Зь першых дзён паяўленьня ў Горадні Палякаў яны сталі перасьледваць беларускую мову, не дапускаючы яе ва ўсіх установах, вымагаючы зносіцца выключна на польскай мове. Асаблівую шчырасьць у гэтым выяўлялі: інспэктар школаў Вазьнікоўскі, забараніўшы беларускую мову ў перапісцы, стараста Горадзенскі Рагалевіч і паліцмайстра, што давалі вусныя й пісьменныя распараджэньні Горадзенскаму Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту, Школьнай Радзе і інш.

«Польскай уладзе паўтарала і шавіністычна настроеная частка апалячанага грамадзянства ў прасьледываньні беларускай мовы.

«З 42 беларускіх школаў у Горадзеншчыне засталіся толькі 2 беларускія школы — у Горадні і ў Крынках; іншыя школы зачыненыя Палякамі, вучыцялі разагнаны па турмах і лягерах ці зрабіліся «уцекачамі» з сваёй Бацькаўшчыны.

«Я пытаў у некатарых сялян і настаўніцы Адзярыхі ў Сіняўцы, чаму Палякі такія злыя на іх воласьць, чаму арыштавалі і вывезьлі недзе настаўнікаў. Усе яны сказалі мне так:

«Нас хацелі далучыць да Польшчы, але мы адмовіліся — ня хочам, ды годзе. Прыехаў да нас польскі начальнік, склікаў усіх прадстаўнікоў ад усіх вёсак, а вучыцялёў пасадзіў на лаўкі й крэслы за стол і павёў салодкія гутаркі аб Польшчы. Мы й самі добра знаlі, што да Польшчы далучацца ня трэба, але чакаем што скажуць нашы вучыцялі. А тыя сказалі: «ня трэба», «паны ніколі нічога добрага не далі і неададуць». Дык вось тая прычына ...»

*16. Зьнішчэньне беларускай школы й царквы.*

Аб становішчы ў школьніцтве й царкве ў Горадзеншчыне летам 1919 (і пазьней) гэтак гаворыць дакументальня справаздача Антонава:

«У пачатку 1919 г. настаўніцтва было зарганізавана ў саюз, стварыла сваю Раду. На маю долю выпаў цяжкі абавязак стаць на чале Цэнтральнай Вучыцельскай Рады Горадзеншчыны, вясьці працу ў арганізацыі школаў і настаўніцтва.

«Абраны ў сакавіку старшынёю Рады інспэктар, палякуючы Беларус Квяцінскі адмовіўся ад усякай працы ў настаўніцкай арганізацыі, выехаў у Вільню, а потым, вярнуўшыся праз тры месяцы, напісаў у газэтах, што ён выбывае з усіх беларускіх арганізацыяў і паступае на службу да Палякаў ...

«Другі інспэктар Бельскага павету Семяцкі таксама пакінуў Беларусаў, не даўшы справаздачы з затрыманых настаўнікам грошай, у выніку чаго 3—4 месяцы настаўнікі галадавалі.

«Дзеля высьненьня й паладжаньня гэтага й іншых пытаньняў, Цэнтральная Вучыцельская Рада Горадзеншчыны дэлегавала мяне ў ролі старшыні Рады ў Коўню у Беларускае Міністэрства ў чэрвені 1919 г., скуль я вярнуўся ў Горадню ў палове ліпеня, прайшоўшы адлегласьць між Вільняй і Коўняй туды і назад пехатой, скуль і прывёз на адчыненьне настаўніцкіх курсаў у Горадні 17.000 марак.

«Пасьля павароту з Коўні я застаў у маёй кватэры двух працаўнікоў на ніве асьветы: Дзекуць-Малея і вышэй названага Квяцінскага, правую і левую руку «беларускага дзеяча» Аляксюка. Зь іх першы толькі-што быў звольнены Аляксюком з Ваўкавыскай турмы, дзе ён трымаўся Палякамі нібы за «бальшавізм».

«Гэтую „памылковасьць" Палякаў пан Аляксюк прадставіў настолькі яскрава, што Горадзенская газэта «Эхо» на першай бачыне выстаўляла яго, як вельмі карыснага беларускага дзеяча, які праз памылку толькі трапіў у турму і там хварэў на тыф.

«У польскага інспэктара Вазьнікоўскага Дзекуць-Малей і Квяцінскі сталі сваімі людзьмі, сталі бываць па некалькі раз у дзень у доме інспэктара і ўтраіх кіраваць школьніцтвам Горадзеншчыны. Усё гэта «кіраўніцтва» зводзілася да таго, як заміж беларускіх школаў устанавіць польскія.

«Зьехаўшыся на настаўніцкія курсы ў Горадню, настаўнікі-Беларусы былі разагнаныя дамоў, а частка зь Дзекуць-Малеем перабралася на курсы ў Вільню.

«Будынак беларускай школы, дзе мелі адбыцца курсы, зь яго маемасьцяй захапіў польскі інспэктар Вазьнікоўскі.

«Ні адзін з праслухаўшых у Вільні курсы настаўнікоў, пасады настаўніка не атрымаў: беларускія школы былі зачыненыя, а новыя адчыняліся толькі польскія, — мяне арыштавалі (18 ліпеня), адабралі прывезеныя на курсы грошы з усімі дакумантамі і інтэрнавалі ў Кракаў. Тое-ж зрабілі і адносна шмат іншых настаўнікаў.

«Ад вучыцельскай Рады, на чале якой у часе майго інтэрнаваньня з дазволу інспэктара Вазьнікоўскага, пры дапамозе Аляксюка, часова стаяў Дзекуць-Малей, засталася толькі на дзьвярох вывеска, а ад усіх беларускіх школаў — адна школа ў Горадні, якой кіраваў той-жа Дзекуць-Малей ...»

У дачыненьні да Праваслаўнай Царквы Антонаў паведамляе:

«Як толькі пачалася польская акупацыя Горадзеншчыны, перш-на-перш польскія ксяндзы пры дапамозе польскай улады пачалі адбіраць ад праваслаўных цэрквы. Да гэтага часу (1921 г.) адабрана імі пад касьцёлы ў аднэй Горадзеншчыне звыш 30 парахвіяльных цэркваў і тры манастыры ... Так у Сакольскім павеце з 12 праваслаўных парахвіяў дазволена Палякамі толькі 3. У Беластоцкім павеце з 13 парахвіяў асталіся ўсяго 4. У Бельскім павеце з 38 парахвіяў асталося 9. У Ваўкавыскім павеце з 25 асталося 9.

«Перайманьне Палякамі праваслаўных цэркваў адбываецца пры помачы паліцыі з ламаньнем дзьвярэй, іканастасаў і г. д. З манастыроў захопленыя слаўныя манастыры ў Супрасьлі і Жыровічах ...

«Праваслаўны сьвятар ня можа пераехаць з парахвіі на

# Сумныя пэрспэктывы для беларускага сялянства

У мінулым годзе, пад моцным націскам партыйна-савецкага кіраўніцтва, калгасы й саўгасы на Беларусі прымушаныя былі здаць дзяржаве 362 тысячы тон збожжа, у той час, калі ў 1962 годзе было здадзена дзяржаве толькі 257 тысяч тон. Такім чынам, ў 1963 годзе было здадзена на 40% збожжа больш, чымся ў 1962 годзе. Між тым, мінулы год быў неўрадлівым, але такой вялізарной здачы збожжа яшчэ ніразу ня было за ўвесь час існаваньня савецкага рэжыму. Аб гэтым сьветчаць афіцыйныя зьвесткі. Так за 1954-1958 г. г. сярэдняя гадавая здача збожжа дзяржаве на Беларусі не перавышала 251 тысячы тон, а апошнія тры гады яшчэ менш. Пачынаючы ад 1959 аж да 1963 году здача збожжа складала ў сярэднім штогод 231 тысячу тон.

Празьмерная здача збожжа, ды яшчэ ў неўрадлівы год бяз сумлеву адмоўна адбіліся ўвосені на сяўбе азімых пасеваў. Выконваючы «першы запавет», калгасы прымушаныя здаваць дзяржаве сельскагаспадарчую прадукцыю ня толькі ў першую чаргу, але і найлепшай якасьці. У сувязі зь вялікай здачай збожжа дзяржаве ўвосені, шмат калгасаў заставаліся без насеньня, а калі што дзе засталося, дык найгоршай якасьці.

Гэтая акалічнасьць нейкім чынам мела адбітак і на тэрмінах сяўбы азімых, а таксама й на іхнай якасьці. Недарма-ж наш народ гаворыць, «што пасееш, тое й пажнеш». А жаць сёлета запраўды няма чаго. Вось прыклад, як выглядаюць засеяныя палі на Беларусі. У «Сельскай газэце» за 24-га чэрвеня сёлета быў зьмешчаны кароткі агляд пад назвай «Аб стане пасеваў сельскагаспадарчых культур». У гэтым аглядзе з трывогай паведамлялася, што спэцыялістыя сельскай гаспадаркі правялі дасьледваньне аб стане ўсіх пасеваў у Горадзенскай, Берасьцейскай і Гомельскай вобласьцях. З гэтай прычыны адбылося сумеснае паседжаньне калегіі міністэрства вытворчасьці й нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў з калегіяй міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. На гэтае надзвычайнае паседжаньне быў запрошаны акадэмік Дарожкін, тры дактары сельскагаспадарчых навук і іншыя навукоўцы. На калегіях двух міністэрстваў аграномы дасьледнікі паведамілі, што пасевы ў калгасах і саўгасах разьвіваюцца надзвычай слаба, заўчасна пажаўцелі азімыя й яравыя збожжавыя культуры, гарох, віка, лён — асабліва на лёгкіх глебах і ўзгорках. Шмат у якіх раённых кіраўнікоў сельскай гаспадаркай ёсьць намер пасевы азімага жыта скасіць на сена, а яравыя пасевы пераараць і перасеяць грэчкаю, просам, бульбай і кукурузай.

Катастрафальны стан абгрунтоўваецца тым, што на працягу ўсяго чэрвеня на тэрыторыі Беларусі стаяла гарачае й сухое надвор'е, а ў другой дэкадзе чэрвеня тэмпэратура паветра дасягала 33 градусаў. Дажджы выпадалі вельмі рэдка і ахаплівалі нязначную тэрыторыю.

Вось-жа два міністэрствы з удзелам спэцыялістых абмяркоўвалі, што рабіць. Дазволіць касіць жыта на сена вельмі рызыкоўна, бо знойдзецца хто-небудзь і напіша ў цэнтральнай прэсе, што на Беларусі з дазволу двух міністэрстваў жыта й пшаніцу скасілі на сена, а потым ад бяды не абярэшся. Таму было пастаноўлена азімыя пакінуць і не касіць на сена. Што тычыцца пасеваў яравых культур з удзелам спэцыялістых-аграномаў, хоць канчальную пастанову ў гэтым пытаньні прыймае ўправа калгасу, міністэрствы на сваім паседжаньні раілі пры перасеве павялічваць нормы высеву на 15-20%. На паседжаньні міністэрстваў высьвятлілася, што засуха пашкодзіла шмат сенажацяў шматгадовых траваў.

Вельмі хутка пасьля канстатацыі катастрафальнага стану на палёх калгасаў і саўгасаў, у друку была зьмешчана пастанова ЦК КПБ і Савету міністраў БССР «Аб правядзеньні ўборкі ўраджаю і нарыхтоўках сельскагаспадарчых прадуктаў».

Як трэба было чакаць, у гэтай пастанове ЦК КПБ і Савет міністраў БССР абвінавачвае кіраўнікоў сельскай гаспадаркі на мясцох, а таксама, аграномаў, што яны як сьлед не зарганізавалі ў калгасах і саўгасах барацьбы за атрыманьне «у складаных умовах сёлетняга году» вызначанага для кажнай гаспадаркі валавога збору сельскагаспадарчых культураў. У пастанове адзначаецца, што маюць месцы факты непадрыхтаванасьці да збору ўраджаю. На 20-га чэрвеня не адрамантавана было звыш палавіны збожжавых камбайнаў, значная колькасьць жатак, малатарняў і іншых машынаў.

У пастанове даюцца інструкцыі, як трэба арганізаваць збор ураджаю бяз стратаў. Аднак найбольшы націск робіцца на тое, каб — цытуем — «з першых дзён уборкі арганізаваць прадажу калгасамі і саўгасамі збожжа дзяржаве, забясьпечыўшы сваечасовае і поўнае выкананьне плянавых закупак і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў дзяржаве».

Выглядае, што і гэты год будзе цяжкім для саўгаснага сялянства на Беларусі. Няма сумлеву, што, ня гледзячы на засушлівы год, партыйнае кіраўніцтва прымусіць выконваць пляны здачы дзяржаве. Што застанецца на аплату цяжкой працы калгасьнікаў — гэта іх ня турбуе.

**В. Б.**

# Век жыві, век вучыся!..

У Аргентыне жыве шмат Беларусаў і Ўкраінцаў, што папрыяжджалі сюды з заходняй Беларусі і Ўкраіны ў гадох між дзьвюма сусьветнымі войнамі. Гэта была ўсё так званая эканамічная эміграцыя: людзі шукалі заработку, палітыкай лішне няцікавячыся. Калі скончылася Другая сусьветная вайна, сярод ладнае часткі гэтае эміграцыі запанавалі прасавецкія настроі. Савецкай прапагандзе дзеіць спачатку было даволі лёгка, паколькі ў гадох Другое сусьветнае вайны Савецкі Саюз быў прыязнай Захаду дзяржавай. Таму, у 50-ых гадох шмат хто з аргентынскіх эмігрантаў вярнуўся дамоў. Хваля рэпатрыяцыі была найбольшаю ў 55-м і 56-м гадох. Апошнім часам, аднак, назіраецца цікавая зьява: не з Аргентыны ў Савецкі Саюз, а наадварот — з Савецкага Саюзу людзі варочаюцца ў Аргентыну. Праўда, ужо ня гуртам, ня сотнямі, а паадзіночна, напару зь вялікімі цяжкасьцямі.

Што асабліва характэрна, дык гэта тое, што пра абставіны жыцьця ў Савецкім Саюзе зварачэнцы маўчаць, ухіляюцца наагул ад усякіх гутарак на гэтую тэму. Можа ім сорамна, што ня верылі, калі іх папераджалі ня ехаць, можа іх пастрашылі, загадалі маўчаць, а можа ім проста ня хочацца гаварыць, каб не падкопваць шансаў на зварот у Аргентыну тым, хто спрабуе вярнуцца.

Варочаюцца з Савецкага Саюзу адно тыя, што маюць у Аргентыне блізкую радню, якая можа выставіць гарантыю, што з абясьпечыць зварачэнца жытлом і працай.

Недалёка ад аргентынскай сталіцы Буэнос-Айрэсу ёсьць мясцовасьць пад назовам Лянос. Тут жыве каля дваццацёх сем'яў Беларусаў, а сярод іх — колькі чалавек, што пабывалі ў Савецкім Саюзе і нядаўна адтуль вярнуліся. Некаторыя зь іх адчувалі, едучы ў БССР, што варочацца на бацькаўшчыну — справа рызыкоўная, дык рабілі так, што ехаў перш муж, або жонка, каб у выпадку чаго можна было вярнуцца да «блізкае радні» ў Аргентыну.

Гэтак здарыўся, відаць, адзін выпадак, пра які цяпер перадаецца з вуснаў у вусны, ды які стаўся ўжо бадай анэкдотам.

«Ты, едзь на Беларусь, — казаў «блізкі сваяк», — і калі там жывецца лепш, чымся ў Аргентыне, дык прысылай сваю здымку, сфатаграфаваўшыся стоячы. Калі-ж сфатаграфуешся седзячы, гэта будзе значыць, што там горш, і я нікуды рыпацца ня буду».

Мінула месяцаў весем. З Савецкага Саюзу прыходзіць нарэшце здымка: чалавек сфатаграфаваны лежачы...

Сярод Беларусаў Аргентыны выпадкаў звароту на бацькаўшчыну цяпер ужо няма. Людзі сумуюць па сваім краі, шукаюць лучнасьці зь ім, але ехаць туды высьцерагаюцца, асабліва пасьля таго, калі тыя, што паехалі былі, пачалі, хто можа, варочацца назад.

**Э. Ц.**

# «Свабодная» дыскусія

Якія ідэалы паўстаюць перад юнацтвам? Якія мары моладзі, да чаго скіраваныя ейныя імкненьні? Чаго жадаюць дасягнуць і з чым хочуць змагацца маладыя людзі?

Падобныя пытаньні — а іх шмат — ці раз абмяркоўвала савецкая прэса. Сёлета газэта «Чырвоная Зьмена» разгарнула дыскусію на тэму сучаснай маралі, грамадзкага абавязку, працоўнай дысцыпліны.

Дыспут пачаўся ў Магілеўскім доме культуры. Ініцыятарамі яго былі студэнты пэдагагічнага інстытуту. «Чырвоная Зьмена» надрукавала невялікі рэпартаж з дыспуту.

Як відаць з рэпартажу, дыспут пачаўся нясьмела. Вось як аб тым піша газэта: «Пазіралі адзін на аднаго. Ну, хто самы сьмелы? Хто першы?»

Сярод хлопцаў, як зазначае карэспандэнт «Чырвонай Зьмены», не знайшлося сьмелых. Першымі выступілі дзяўчаты. Яны лаялі скептыкаў і раўнадушных. Выхвалялі ўмовы савецкай рэчаіснасьці. Казалі, што кажны чалавек мае сваю пуцяводную зорку, што ўсякая мара можа зьдзейсьніцца і зьдзейсьніваецца. Зразумела, такая «праўда» не вымагае сьмеласьці. Але ў аўдыторыі былі спробы выступіць наўсуперак некаторым выказваньням. У залі пачуліся воклічы й рэплікі: «хлусьня», «прыгожыя словы», «няпраўда».

Чаму гэтыя людзі не хацелі выступаць з прамовамі? Іх-жа запрашалі на сцэну: «Калі ласка, можаце выступіць. У нас свабодны абмен думкамі, кажны гаворыць тое, што лічыць правільным»...

«Чырвоная Зьмена» абазвала праціўнікаў «баязьлівымі крыкунамі», «паскуднікамі» і заклікала ўсіх быць «няпрымірэнчымі» да іх. Вось і папрабуйце пасьля гэтага выказвацца. Навет рэплікі не дапушчаюцца! Дык які-ж гэта свабодны абмен думкамі?

# Падзея рэспубліканскага маштабу...

У менскай «Звяздзе» была зьмешчаная нататка, што мэханізатар Іван Бельскі купіў легкавую машыну «Масквіч».

Здавалася-б, што факт куплі аўтамабіля не такая ўжо вялікая падзея, каб аб гэтым пісаць артыкулы ў рэспубліканскай прэсе. Калі-б на Захадзе публікавалі такія весткі, дык прынамся палавіна газэтаў была-б імі запоўненая.

Няма сумлеву, што гэтае паведамленьне надрукаванае з прапагандовай мэтай, аб чым сьветчыць сказ з прыгаданай нататкі: «Добрая праца прыносіць добры заработак». Інакш кажучы: працуйце й перавыконвайце нормы, як гэта робіць Бельскі, дык зможаце навет купіць «Масквіча».

Але ў Савецкім Саюзе найтаньнейшы «Масквіч» каштуе тры тысячы рублёў. Дык колькі-ж падсавецкіх грамадзян мае магчымасьць купіць аўтамабіль, калі навет малады лекар на правінцыі зарабляе толькі 80 рублёў у месяц.

Пры гэтам, у Савецкім Саюзе, хочучы купіць новую машыну, треба запісацца некалькі гадоў наперад.

Пэўна-ж, для Івана Бельскага — мэханізатара з-пад Стоўбцаў — купля «Масквіча» — гэта вялікая падзея. А што такая падзея наагул вельмі рэдкая ў работніцкім асяродзьдзі Беларусі — сьветчыць прыгаданая намі нататка ў газэце «Зьвязда». І няма сумлеву, што беларускія работнікі працуюць не лягчэй работнікаў на Захадзе.

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# У Брадфардзе

У нядзелю 31 травеня адбылася чарговая Багаслужба ў капліцы Сьв. Эўфрасіні Полацкае, якую адправіў сьвятар БАПЦ а. Я. Абабурка. Пасьля Багаслужбы Беларусы Брадфарду сабраліся ў Беларускім Доме, у залі Беларускага Юнацкага Клюбу, каб абмеркаваць некаторыя пытаньні, зьвязаныя з працай над выхаваньнем сваіх дзяцей. Важную ролю ў гэтай справе адыгрывае Беларускі Юнацкі Клюб.

Брадфардзкі Беларускі Дом набірае новы выгляд: праводзіцца абсталяваньне і дэкарацыя залі, у якой нашы юнакі і дзяўчаты праводзяць свой вольны час. Робіцца гэта дзеля таго, каб дапасаваць залю да мадэрных густаў сяброўак і сяброў Беларускага Юнацкага Клюбу.

Усю працу над андаўленьнем залі выконваюць мясцовыя сябры ЗБВБ і Беларусы з ваколіцаў Брадфарду, бо Клюб мае за заданьне дапамагчы выхоўваць беларускіх дзяцей у нашым нацыянальным духу. У Клюбе дзеці вучацца беларускай мовы, знаёмяцца з гісторыяй, геаграфіяй і іншымі галінамі веды аб краіне іхных бацькоў. Яны вывучаюць таксама беларускія песьні, танцы, каб у будучыні выступіць зь імі на беларускіх канцэртах.

Сёлета ў часе летніх канікулаў сябры Клюбу выязджаюць у Лёндан, каб пазнаёміцца з брытанскай сталіцай і пры нагодзе адведаць беларускую школу-інтэрнат імя сьв. Кірылы Тураўскага.

**Янка Крушына**

---

парахвію — яго арыштоўваюць. Праваслаўны Япіскап ня мае права выехаць да якойсь парахвіі дзеля адправы службы Божай, бяз дазволу мясцовай польскай улады...»[71]

*17. Канцэнтрацыйны лягер «Домбія».*

У другой палове ліпеня 1919 г. ўсе турмы ў Горадзеншчыне на толькі былі перапоўненыя Беларусамі, што паўстала вострая патрэба іх ачысткі і перавозу арыштаваных у канцэнтрацыйныя лягеры ў розных мясцовасьцях Польшчы, зь якіх два — у Кракаве «Домбія» і ў Беластоку «Ст. Разьдзельная» — найбольш зьмяшчалі Беларусаў. Ачыстка турмаў і перавод зьняволеных у лягеры палонных выклікаўся таксама падрыхтоўкай Палякаў да ўсходняй афэнзывы з мэтай захопу далейшых беларускіх земляў.

На колькі жудаснае было мучэньне ў гэтым лягеры сьмерці, даведаемся ад самых зьняволеных. Так Антонаў піша:[72]

«Яшчэ ў дарозе ў Кракаў, наш канвойны вахмістр Вэбер заявіў мне, што ўсе мае дакуманты «забытыя» ім у Варшаве ў знаёмага. Гэта няпраўда, бо пасьля Варшавы я бачыў, як у вагоне ён трымаў іх і пераглядаў.

«Відавочна, пазнаёміўшыся з дакумантамі, што яны выясьняюць маю асобу і дзейнасьць, ён уважаў выгадным даставіць мяне ў Кракаўскі лягер без дакумантаў, як «бальшавіка».

«Так я трапіў у барак № 13 як «бальшавік». «Бальшавікі», у бальшыні такія-ж як і я, з прыхільнасьцю сустрэлі мяне: пасунуліся на агульных голых нарах, далі месца легчы, накармілі бурдой-зупай, і я спакойна заснуў.

«У бараку цесна, брудна, вашыва. Тут усе мучанікі ахвяраваныя Палякамі на загубу.

«Праз тыдзень мне ўдалося перайсьці ў «ахвіцэрскі» барак № 14.

«У ім на трохпавярховых нарах разьмяшчаліся ахвіцэры ў чынах ад палкоўнікаў да прапаршчыкаў, вуніяцкія сьвятары, вайсковыя й цывільныя ўрадоўцы, два міравыя судзьдзі, настаўнікі і інш.

«Усе тры паверхі нараў былі поўныя; некалькі ляжала нават у куце на зямлі. І тут, як і ў «бальшавіцкім» бараку, было брудна, вашыва і ноччу холадна, але былі саламяныя ці стружкамі напханыя сяньнікі.

«Жыхары верхніх паверхаў брудзілі сваімі сяньнікамі і пралівалі ваду на галавы жыхароў ніжніх паверхаў. І гэта зьяўлялася часта ў выніку ўзаемнай сваркі.

«Перавагай нашага бараку перад «бальшавіцкім» было тое, што мы ў азначаныя гадзіны маглі свабодна хадзіць па ўсім лягеры і спаць на сяньнікох. Бальшыня хадзіла ў старой, падранай вопратцы, выданай Палякамі заміж зьнятай новай. Сумна апусьціўшы ґаловы, ледзь цягнучы ногі, галодныя вязьні хадзілі доўгімі гадзінамі каля сваіх баракаў, а зьняможаныя ляжалі на сваіх нарах, наракаючы на свой лёс і праклінаючы Палякаў. Усе былі вельмі змучаныя ад голаду й іншых недастаткаў. Але дух бадзёрасьці не пакідаў нас. Падтрымлівала нас часта песьня Бацькаўшчыны. Штодзённа перад захадам сонца складаўся імправізаваны украінска-беларуска-расейскі хор з нас. З сотняй змучаных горам нявол, надарваных грудзей нясьліся стройным акордам, грымячым і плачучым, да неба й Бацькаўшчыны родныя песьні.

«Пад гэтыя зыкі мы разыходзіліся на ноч па бараках і засыналі з мокрымі часта вачамі ад выкліканых пачуцьцяў.

«Вось што давалася звычайна ў ежу ў жнівені месяцы: на сьнеданьне — «кава-вада» і 6 галет у два пальцы вялічынёй кожная, на абед суп з гнілых кансэрваў гародніны зь мільярдамі чэрвяў ці вадзяністы суп зь гнілой бульбай; на вячэру — поліўка з вады і шчыпкай мукі. Закрасаю у супы найчасьцей былі быдлячыя й конскія кішкі, а іншы раз мініятурныя кавалачкі сала.

«З палавіны верасьня сталі даваць 2 кгр хлеба на 13 чалавек. Тыя, што мелі грошы, мелі крыху лепшы стол, але усё-ж недастатковы для харчаваньня.

«10—12 тысячаў інтэрнаваных і ваеннапалонных лягеру выдавала штодзённа на дзесяткі тысячаў марак на куплю хлеба ў кантыне, каб ратавацца ад сьмерці. Тыя, хто ня меў грошай, прадаваў рэшткі сваёй вопраткі на хлеб. Прадаў на хлеб і я пальто, порткі, боты.

«Людзі гуртаваліся па нацыянальнасьці: Украінцы, Галічане, Беларусы, Жамойцы, Жыды, Расейцы...

«Добрае ў нашым катаржным жыцьці было тое, што мы мелі магчымасьць вымены думак на цікавячыя нас пытаньні адносна будаўніцтва дзяржаўнага жыцьця нацыяў. Лягер для нас аказаўся добрай школай.

«Лягер наш быў перапоўнены ваеннапалоннымі і інтэрнаванымі: мужчыны, жанчыны, дзеці, навет глуханямыя й сьляпыя і тыя арыштоўваліся дзеля «супакою» Польшчы, саджаліся сюды за драты...

«Ахвіцэры і ўраднікі ўсіх рангаў, людзі ўсіх прафэсыяў зыбраныя былі сюды за драты: прафэсары, настаўнікі (іх было болей за 500 чал.), інжынеры, адвакаты, духоўнікі, пракуроры, міравыя судзьдзі, адміністрацыйныя працаўнікі, аграномы і мора беларускага сялянства. Адных беларускіх вучыцялёў было тут да 400 чалавек».

На месца памерлых з голаду й эпідэміяў прывозіліся новыя ахвяры. На Вялікдзень 1920 г., калі Палякі былі ўжо панамі і цэнтральнай Беларусі зь Менскам, ачышчаліся зноў турмы для новых арыштаваных. Вось як апісвае зьняволеньне ў лягеры «Домбія» раньняй вясной пар. пар. Казячы і Мышка:[73]

«З прыемнасьцяй пасьля доўгіх мукаў транспарту разьляглiся мы — «горадзенскія бальшавікі» — на нарах. Нас было з Горадзеншчыны да 1000 чалавек...

«Кармілі нас „кавай-вадой", сьмярдзячымі пахлёбкамі, а за абы-што зьбівалі шомпаламі і нагайкамі. Амаль кажны чакаў хваробы й сьмерці, як збаўленьня ад мукаў. Толькі некаторым удавалася ўцячы ў Чэхію й Вугоршчыну, а іншым у армію Юдзеніча, куды й мы лучылі...»

*18. Канцэнтрацыйны лягер «Разьдзельная».*

У канцэнтрацыйны лягер «Ст. Разьдзельная» ў Беластоку былі высланыя многія ахвіцэры зь Беларускага Палку ў Горадзеншчыне і іншыя дзеячы. Сярод іх быў Камандант г. Горадні М. Дзямідаў, палк. Антонаў, С. Якавюк і іншыя. Ізноў дамо голас няшчаснаму мучаньніку польскіх лягероў — настаўніку Антонаву:[74]

«У канцы верасьня 1919 г. зьмешаная ваенна-цывільная камісія, разгледзіўшы дзьве мае просьбы аб звальненьні зь лягеру «Домбія», (адна просьба была перададзена палкоўніку амэрыканскай місіі, аглядаўшай лягер) звольніла мяне, і я з пасьветчаньнем і за дармовы білет прыехаў у Горадню на месца свайго жыхарства.

«У Горадні свабодным я пражыў толькі 5 дзён. На 6-ы дзень мяне, ня гледзячы на маё пасьветчаньне аб «вольнасьці», арыштавалі, пасадзілі нанач у нейкі халодны будынак, а на другі дзень у 10 гадз. павялі мяне на вакзал, а стуль цягніком у Беласток у лягер «Разьдзельная», дзе і прышлося яшчэ прасядзець і зьнясьці вялікія беды да пачатку лютага 1920 г.

# Адыйшлі ад нас у вечнасьць

## Над сьвежай магілай Пётры Сыча

### 18. I. 1912 — 20. VI. 1964

*«. . . Што чужая зямля? — Прыямней мо свая-бы:*
*Такі жоўценькі, мяккі, сухенькі пясок!*
*Нада мною бярозка падалок паднялабы,*
*Або крэпкі шумеў-бы дубок . . .»*

Так, у чужой зямлі давялося спачыць сьветлай памяці Пётру Сычу. «Прыямней мо свая-бы», — пісаў ён больш за 10 год таму. Лёс хацеў інакш. Курган вянкоў зь бел-чырвона-белымі йстужкамі вырас яшчэ на аднэй магіле далёка ад Бацькашчыны. Беларусь у паходзе страціла яшчэ аднаго сына.

Перадчасная сьмерць вырвала з нашых радоў ахвярнага грамадзкага й палітычнага працаўніка, таленавітага журналістага, пісьменьніка, мастака.

Ягоны недаўгі жыцьцёвы шлях ня быў усланы ружамі.

Нарадзіўся Пётра Сыч у 1912 годзе ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Батурына, Вялейскага павету. Таленавітаму хлапцу навука давалася лёгка. Ягоныя здольнасьці былі заўважаныя, і гэта дапамагло яму трапіць у гімназію, якую ён скончыў у Вялейцы ў 1929 годзе. У наступным годзе стаўся студэнтам філялягічнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Але два гады пазьней — першы ўдар лёсу: захварэла маці-ўдава. Давялося пакінуць унівэрсытэт і стацца ўрадоўцам, каб зарабляць на пражыцьцё.

Якой была тады нацыянальная палітыка Варшавы ў дачыненьні да беларускіх земляў, прыгадваць хіба ня трэба. Рэлігія сьведама атаесамлівалася з нацыянальнай прыналежнасьцяй. Пятро Сыч быў каталіком. Адарванаму ад беларускага актыву маладому Пятру пагражала палянізацыя. Ён стаецца супрацоўнікам польскіх газэтаў у Вільні. У 1932 годзе, у газэце «Глос Люду», зьявіўся ягоны першы верш — папольску. Выглядала, што яшчэ аднаму сыну Беларусі наканавана ня толькі ўзбагачваць культурную скарбніцу аднаго з акупантаў, але й да таго быць прыладай ягонай дэнацыяналізатарскай палітыкі.

Аднак, будучы польскім урадоўцам, пішучы папольску, Пётра Сыч не пераставаў цікавіцца беларускім нацыянальным рухам. Такіх беларускіх дзеячоў як Рак-Міхайлоўскі, Тарашкевіч, ён ведаў асабіста.

У 1939 годзе Пётра Сыч быў змабілізаваны ў польскую армію. У Ашмянах яго захапілі бальшавікі. З палону яму ўдалося ўцячы, але 3 кастрычніка таго-ж году яго арыштавалі. У чэрвені 1940 году яго перавезьлі зь Вялейскай у Полацкую турму, дзе бяз суду ён атрымаў прысуд — 10 год канцлягеру.

Чэрвень 1940 году — гэта быў час ростані Пётры Сыча з Бацькаўшчынай. Ростані назаўсёды . . .

Комі АССР, Севжэлдорлаг: тут Пётра пачаў жыцьцё канцлягерніка, якое мелася трываць прынамся 10 год.. Але ў верасьні 1941 году зноў нечаканы паварот у ягоным жыцьці.



Яго перакідаюць спачатку ў Надволжа, а пазьней у Самарканд. Там, на падставе ўмовы паміж польскім эміграцыйным і савецкім урадамі, тварылася польская армія з былых канцлягернікаў — былых польскіх грамадзянаў. З тысячамі іншых Беларусаў, што гэткім чынам вызваліліся з канцлягераў, Пётра Сыч зноў апрануў польскі мундзір.

Пэрсія, Ірак, Сырыя, Лібан. Палестына, Эгіпет — вось далейшы шлях Пётры Сыча. Шлях, які, спадзяваўся ён, усё-ж такі прывядзе да роднай зямлі . . .

У лютым 1944 году корпус ген Андэрса, у якім служыў нябожчык — тады ўжо ў ранзе паручніка — быў перакінуты ан фронт у Італію. Паручнік Сыч прайшоў праз пекла баёў пад Монтэ Касыно, браў Анкону й Балёнію. За ўвесь час вайсковай службы, быў чатыры разы паранены. У незакончанай аповесьці-ўспамінах «Сьмерць і салаўі», друкаваных у газэце «Бацькаўшчына», нябожчык апісваў гэтыя падзеі. Працягу ня будзе . . .

У Ангельшчыне, куды ў 1946 годзе быў пераведзены корпус Андэрса, Пётра Сыч — яшчэ ў мундзіры ангельскага ахвіцэра — улучаецца ў беларускае арганізацыйнае жыцьцё, становіцца актыўным супрацоўнікам першага беларускага часапісу ў Ангельшчыне «Беларус на чужыне», піша ад гэтага часу ўжо толькі пабеларуску. У вялікай меры гэта зьяўляецца заслугай Вінцука Жук-Грышкевіча, зь якім Пётра Сыч пазнаёміўся й пасябраваў яшчэ у Полацкай турме ды дайшоў разам аж да Ангельшчыны. Але, каб даць плады, зерне мусіць трапіць у спрыяльную глебу. Гэтай глебай было жаданьне Пётры Сыча служыць свайму краю, любоў да якога выгнаньне толькі паглыбіла і ўмацавала. І ён стаў на абарону інтарэсаў свайго народу, адмаўляючыся, фактычна, ад тых выгадаў, якія давала тады ў Ангельшчыне становішча польскага ахвіцэра. Улучыцца ў вызвольны рух на эміграцыі чалавеку дасюль у гэтым руху незаангажаванаму — гэта няштодзённы выпадак.

У 1951 годзе Пётра Сыч пераехаў у Заходнюю Нямеччыну, дзе спачатку быў галоўным рэдактарам сатырычнага часапісу «Шарсьцень», што карыстаўся такім вялікім посьпехам. Да нечаканай сьмерці ён быў сябрам рэдакцыі й сталым супрацоўнікам нашай «Бацькаўшчыны». Ён быў таксама сябрам Рады БНР. У 1954 годзе — ад першых дзён заснаваньня Беларускай рэдакцыі Радыя «Свабода» — ён зьяўляўся заступнікам галоўнага рэдактара й адным з найбольш плодных ейных супрацоўнікаў. У першай перадачы Пётра Сыч гэтак зварочваўся да суродзічаў на Бацькаўшчыне:

«У тапаграфіі кут, мераны ўправа ад магнэтычнай Поўначы, завецца азімутам. Азімут паказвае нам кірунак простага маршу да мэты. Досыць добра запамятаць на карце кут, і пасьля, глядзячы на стрэлку компасу, можна ўдзень і ўначы йсьці проста да мэты.

Мы, беларускія эмігранты, маем свой зьмераны й добра запамятаны азімут ад месца нашага прабываньня да нашай мэты — Беларусі. І гэты азімут мы завем азімутам сэрца».

Гэтаму азімуту стомленае нягодамі й выгнаньнем сэрца Пётры Сыча засталося верным да апошняга ўдару.

*«Ірвецца позірк за Дунай . . .*
*Душа ў настальгіі сьмяротнай*
*насустрач журавом, у край*
*ляціць дарогай паваротнай.*
*Як добра, што ў глыбокі мох*
*беспаваротна кануць сьлёзы,*
*што сьветкам іх быў толькі Бог*
*ды сумна-ціхія бярозы.*
*. . . . . . . . . . . .*
*Нашто нячулы, жорсткі сьвет*
*сьмяяцца меў-бы, поўны злосьці,*
*што плакаў я, бы той паэт,*
*па вёснах, шчасьці, маладосьці . . .»* — пісаў ён у вадным з сваіх вершаў.

Дарагі Пётра! Тыя, што сабраліся былі над тваёй магілай, не саромеліся сьлёзаў. А разьвітацца з табой сабраліся ня толькі твае сябры й калегі, твае суродзічы й чужаземцы звыш дзесятка нацыянальнасьцяў. Разьвітацца з табой здалёк прыехалі нашы высокія палітычныя й рэлігійныя дзеячы на выгнаньні. Яны прыгадвалі Твой цяжкі жыцьцёвы шлях, Тваё гарачае сэрца й любоў да краю. Нічога, хіба, нельга дадаць да іхных словаў.

Сьпі спакойна, Дружа . . .

*Ул. Нямановіч*

## Сьв. Пам. Алімп Мяленьцеў

22-га травеня сёлета ў Лёс Анджэлесе памёр кампазытар і дырыгент Алімп Мяленьцеў. З паходжаньня Расеец, сьв. пам. Мяленьцеў апошні пэрыяд свайго жыцьця цесна зьвязаў зь Беларусамі і беларускай музыкай і стаўся ведамы ўсёй беларускай эміграцыі сваім актыўным удзелам ў рэпрэзэнтацыі беларускага музычнага мастацтва.

Перад эміграцыяй на Захад А. Мяленьцеў працаваў дырыгентам апэрэты на Ўкраіне. Выехаўшы ў часе Другой сусьветнай вайны ў Нямеччыну, ён далучыўся да ансамблю беларускай песьні й танцу «Жыве Беларусь». Тут, акампаніюючы беларускія песьні й танцы, ён так спадабаў беларускую народную музыку, што ніколі пасьля зь ёй не раставаўся. Пасьля вайны А. Мяленьцеў некаторы час актыўна супрацоўнічаў у зарганізаваным Беларускім тэатры эстрады. Пасьля, жывучы ўсьцяж зь Беларусамі ў беларускіх асяродках у Нямеччыне, ён браў удзел у музычным афармленьні беларускіх канцэртаў і пастановак у лягерох Д. П. Ён напісаў таксама тэкст і музыку для казкі на тэму Купальля, якая зь вялікім посьпехам ставілася з удзелам аўтара беларускімі мастацкімі сіламі на беларускіх і іншанацыянальных сцэнах у Нямеччыне.

Незаменным партнэрам ўва ўсіх мастацкіх выступах была для сьв. пам. А. Мяленьцева ягоная жонка Марыя — выдатная сьпявачка, артыстка эстрады й апэрэты.

Пераехаўшы ў Задзіночаныя Штаты, музыкальная сям'я Мяленьцевых не парывала сувязі й супрацоўніцтва зь Беларусамі. Апошні раз Мяленьцевы выступілі супольна з сваёй мастацкай праграмай на сёлетнім сьвяткаваньні ў Лёс Анджэлесе ўгодкаў Акту 25-га Сакавіка.

Добры ўспамін аб сьв. пам. Алімпу Мяленьцеву назаўсёды застанецца сярод Беларусаў!

**Н.**

## Памёр Баляслаў Бабарыка

Баляслаў Бабарыка быў беларускім вясковым грамадзкім дзеячом. Памёр у травені мінулага году ў Польшчы, у веку каля 63 год. Вестка гэта вельмі спозьненая, але вартая, каб была пададзена да ведама беларускага грамадзтва, каб наша грамадзтва ўшанавала належна памяць аб памёршым.

Баляслаў Бабарыка быў вялікім беларускім патрыётам. Ува ўсіх абставінах свайго жыцьця, навет найцяжэйшых, ён не забываўся, што ёсьць Беларусам і стараўся як мага дапамагчы беларускай вызвольнай справе.

Паходзіў з вёскі Палесьсе пад Будславам, Вялейскага павету. Пачатковую асьвету атрымаў у Будслаўскай школе яшчэ за царскіх часоў. Працаваў дома на гаспадарцы. Сьведамым і актыўным Беларусам стаўся вельмі рана. У часе польскай акупацыі належыў да Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі й Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры. Кальпартаваў беларускую прэсу ў сваёй ваколіцы, залажыў мясцовы гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры й беларускую бібліятэку. Але ягоная праца, як і ўспомненага гуртка й бібліятэкі была параліжаваная перасьледам польскай паліцыі. Бабарыка не зражаўся гэтым і не складаў рук, ён заўсёды знаходзіў спосабы прадаўжаць далей сваю актыўную работу.

У 1939 годзе Бабарыка быў арыштаваны як «вораг народу», прайшоў ведамы шлях савецкага вастрогу й лягероў, ды ў 1942 годзе трапіў у Другі Польскі Корпус. Сям'я-ж ягоная й старыя бацькі былі вывезены ў Казахстан. З Другім Корпусам Бабарыка прайшоў Блізкі Ўсход, выгрываў баі ў Італіі, ды пасьля вайны апынуўся ў Англіі. Тут зьявіліся магчымасьці беларускай арганізацыйнай работы, да якой Бабарыка кінуўся з усёй энэргіяй. Але прышла вестка, што ў Польшчу із ссылкі прыехалі ягоныя бацькі й сям'я, ды чакалі

(Заканчэньне на 8-ай бач.)

«У лягеры я знайшоў горадзенскага пратаерэя а. Корчынскага, таксама паўторна арыштаванага і запісанага ў адну зы мной паперыну.

«Горадзенскі стараста Рагалевіч і кіруючы аддзелам інтэрнаваньня Зьбяранскі не пажадалі выканаць загад цэнтральнай улады аб маім звальненьні . . .

«У Беластоцкім лягеры мне прадставіўся яшчэ больш цяжкі малюнак жыцьця зьняволеных. У сырых, халодных бараках, на голых, у два паверхі, нарах, валяліся голыя й галодныя мучанікі. Няспынныя эпідэміі сыпнога й брушнога тыфу, крывавая дызэнтэрыя касілі людзей.

«З кажным днём эпідэміі расьлі й пашыраліся. Асабліва вялікі прац. захворваньняў настаў у пачатку лістапада. Людзі гінулі як мухі ўвосень, а захварэўшым толькі давалася ўвагі з боку адміністрацыі лягеру, колькі деацца тым-жа мухам . . .

«Захварэў тыфам малады дохтар, захварэў і памёр стары фэльчар, памерлі дзьве сястры міласердзя. І той слабы мэдыцынскі дагляд за хворымі, які час-ад-часу бываў, зьнік. Стала выміраць у дзень па 50—70 чалавек».

«Кажны ранак у гумно ня зносілі ўжо, а на вазах звозілі памерлых за ноч людзей. Кіраваў паховінамі ў агульнай магіле Троцкі, які меў на гэта шырокія паўнамоцтвы ад камаданта лягеру. Ён здымаў з памерлых вопратку й абутак і гэтым гандляваў.

«Я знаходзіўся ў крыху лепшых умовах у лягеры: у ахвіцэрскім бараку, не за дротам, а за кругавой нашай парукай адзін за аднаго. Мы самі атрымлівалі прадукты і варылі сабе страву. Але і ў нашым бараку з 12 жыхараў захварэла на тыф 9, зь іх памерла 3.

«Крыху палепшыліся санітарныя ўмовы, калі прыбыў у лягер расейскі земскі лекар. Ён зарганізаваў з ахвіцэраў палонных аддзел санітарнай дапамогі. Былі палепшаныя санітарныя ўмовы: хворых ізалявалі, у адным бараку адчынілі лязарэт . . . Гэта дапамагала ратаваць многіх ад сьмерці.

«Вось некаторыя лікі сьмяротнасьці гэтага лягеру сьмерці. У пачатку кастрычніка 1919 г., калі я лучыў у лягер, у ім было каля 3.000 інтэрнаваных і ваеннапалонных. Пры маім выхадзе зь яго, у пачатку лютага 1920 г., у лягеры засталося каля 700 чалавек, звольнена зь лягеру каля 200 чалавек, уцякло 20, астатнія 2000 засыпаныя Троцкім у братніх магілах.

«Жудасна, цяжка і крыўдна было наглядаць мукі й гібель беларускіх патрыётаў. Вось у адным бараку прытуліўся гурток з 5 настаўнікаў з Слонімскага павету: І. Дварчанін, С. і А. Коскі, А. Пузыновіч і Вера Крывецкая. Два зь іх — ахвіцэры — мелі права на прывільяваны ахвіцэрскі барак, але яны, як некалі біблейны Майсей, лічылі за лепшае цярпець разам з сваімі сябрамі.

«Ляжаць усе яны без адзіялаў на голых нарах, без польтаў, галодныя, у сырым халодным бараку, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго дзеля цяпла і чакаюць чаргі пераходу пад уладу паграбальніка Троцкага.

«За што вас інтэрнавалі ў лягер? — запытаўся я ў настаўнікаў.

«Хацелася паставіць беларускі спэктакль і сталі рыхтавацца да яго».

«Вось усю трупу артыстых „ізалявалі" ад народу, як цяжкіх праступнікаў . . .

«Пасьля 3-месячных мукаў, ад жывых, жыцьцярадасных вучыцеляў-артыстых беларускага тэатру, засталіся адны цені, і гэтыя цені зь вялікім рыскам для жыцьця паставілі ўцякаць зь лягеру. І ён уцёк — гэты гурток беларускіх настаўнікаў.

«На іншых нарах ляжаць два маладыя прапаршчыкі „бальшавікі". Скончыўшы 8 кл. гімназіі, пад пагрозай расстрэлу былі змабілізаваныя бальшавікамі. Маладыя «бальшавікі» апынуліся ў палоне ў Палякаў з надзеяй папасьці ў армію Дзянікіна. На перагоне Вільня-Горадня Палякі іх разьдзелі, абрабавалі і ўзамен адабранай адзежы надзелі на іх лахмоцьце, а на ногі на места ботаў, парваныя калёшы, і ў такім стане інтэрнавалі на павольную і мучаніцкую сьмерць . . .

«У іншым кутку, бліжэй да выхадных дзьвярэй, скорчыўшыся ад болю непрыемнай хваробы-крываўкі, ляжаць мокрыя тры сьвежа захварэўшыя і чакаюць чаргі вынасу іх у ізалятар, а стуль пэўне ў распараджаньне Троцкага . . .

«Спакойна ходзіць ля нараў толькі адзін бадзёры старац. „Я за сына", — кажа. «Сын мой палкоўнік, прымусам забраны на вайну бальшавікамі, а Палякі, як прыйшлі, забралі мяне сюды за яго, як быцьцам ня ведаюць бальшавіцкіх парадкаў і растрэлаў за непаслухмянасьць. Ну, што-ж, мне усёроўна паміраць пара, але за што гінуць гэтыя маладыя людзі?"

«Падобныя малюнкі і ў іншых „пралетарскіх" бараках; усюды так мучыліся, гінулі. Так, кажуць, мучыліся й гінулі зьняволеныя і ў іншых лягярох, як, напрыклад, у Берасьцейскай крэпасьці.

«Пад канец нашай няволі сонейка заглянула і ў наша турэмнае ваконца. Прыехала амэрыканская місія. Сталі адзяваць і абуваць ужо нямногіх, што засталіся пры жыцьці ў лягерах. Амаль усе адзеліся й абуліся ў старыя, а зрэдку і ў новую вопратку й абутак. Палепшыўся стол, палепшыўся і наш настрой. Сталі ажываць мерцьвякі. Прыехала вайсковая звальняючая камісія, пачалі звальняць патроху, а ўсьлед за ёй і наша камісія для звальненьня цывільных . . .

Тады быў звольнены з палону між іншымі і ппалк. М. Дзямідаў.

«У канцы цывільная камісія звольніла й мяне. Так я прайшоў усе этапы польскіх турмаў і канцэнтрацыйных лягераў сьмерці ды пабачыў трагэдыю свайго народу . . .»

---

[54] *Езавітаў*, 92. К. Цьвірка-Гадыцкі быў арыштованы з загаду бел. Каманданта крэпасьці за арганізацыю ў Наваградку зьезду і ўтварэньне «Бел. Краёвай Рады», якая дамагалася далучэньня да Польшчы.

[55] *Гайдукевіч*, 231.

[56] *Гайдукевіч*, 232.

[57] *Антонаў*, 21–26.

[58] *Гайдукевіч*, 232–233.

[59] *Антонаў*, 22–24.

[60] *Езавітаў*, 79–80. Нажаль у дакуманце няма даты, калі адбылося гэтае паседжаньне прэзыдыі Рады Горадзеншчыны. Даклад быў напісаны і перададзены Варонку 28 чэрв. 1919 г. ў Коўні, куды езьдзіў Якавюк. Мяркуючы паводля іншага дакуманту, Езавітаў 81, дзе сказана, што з 24–25 чэр. 1919 г. польская жанд. ноччу рабіла вобыск у Якавюка і шукала яго самога, каб арыштаваць. Якавюк тады быў у Коўні. Такім чынам нарада Аляксюка мусіла адбыцца каля 20 чэрвеня. У пераліку арганізацыяў, якіх павядоміў Якавюк аб акцыі Аляксюка трэба дадаць Хрысьціянскую Грамаду і каапэратыву «Беларусь».

[61] *Езавітаў*, 82.

[62] *Антонаў*, 25.

[63] *Антонаў*, 25.

[64] *Езавітаў*, 83–88.

[65] *Езавітаў*, 83–76.

[66] *Езавітаў*, 86–88.

[67] *Езавітаў*, 89–94.

[68] *Езавітаў*, 95–109.

[69] *Антонаў*, 28.

[70] Тамжа, 28.

[71] *Антонаў*, 48—57.

[72] Той-жа, 57—65.

[73] *Езавітаў*, 95—109.

[74] *Антонаў*, 65—66.

(Заканчэньне будзе)

*Зь беларускага жыцьця*

# Дзесяць год сьвятарства

24 траўня г. г. парахвія БАПЦ сьв. Крыла Тураўскага ў Таронта адзначыла ўрачыста 10-ыя ўгодкі сьвятарства свайго сьвятара, айца пратаерэя Міхаіла Мацукевіча. Пасьля ўрачыстай багаслужбы адбылася бяседа парахвіян, у часе якой не адзін прамоўца адзначыў ахвярную працу айца Мацукевіча, ды жадаў яму сілаў і здароўя ў далейшай плённай працы.

Аж ня хочыцца верыць, што ад таго крытычнага часу ў рэлігійным жыцьці беларускай калёніі ў Таронта прайшло ўжо 10 год. Было гэта на пачатку 50-ых гадоў. Грамадзкае жыцьцё было ўжо зарганізавана. Існавала ЗБК, выходзіў «Беларускі эмігрант». Але ў царкоўным жыцьці ня было за што рук зачапіць.

Беларускую парахвію можна было зарганізаваць, бо былі й вернікі, сьвятар быў на віду. Але гэты святар, папершае, жадаў пэўную суму грошы на ўтрыманьне, якую невялікая наша грамада ня ў сілах была даць яму, а па другое, ён не згаджаўся на юрысдыкцыю БАПЦ, а вернікам хадзіла аб беларускую аўтакефальную царкву перад усім. Сытуацыя йшчэ пагоршылася, калі гэты сьвятар заснаваў свой беларускі прыход неаўтакефальны, які на доўга стаўся сцэнай супярэчнасьці аўтакефаліі.

У гэтым часе зьявіўся ідэйны чалавек, які ахвяраваўся стаць асновай аўтакэфальнага прыходу. Ён ня ставіў ніякіх матар'яльных варункаў, а толькі жадаў ад вернікаў шчырай веры й адданасьці аўтакефаліі. Ён зрокся сьвецкага асабістага жыцьця, пашоў у манахі, ды выехаў на тры гады студыяў у духоўную акадэмію. Чалавекам гэтым быў сяньнешні наш сьвятар айцец Мацукевіч. Ягоная моцная й рашучая пастава ня вырашыла адразу рэлігійнай праблемы у нашай грамадзе, але ўзмоцніла ўсіх на духу, ды дала канкрэтную надзею. Трэба было тры гады чакаць. І чакалі, і вычакалі.

З высьвячэньнем айца Мацукевіча нарадзілася наша царква ў Таронта. Аджыла наша грамада, кінулася з новым запалам да работы. Быў куплены дом, у якім знайшлі сабе прыпынак царква й ЗБК. Было куплена, а то й зроблена рукамі вернікаў, усё патрэбнае для царкоўнай службы. І цяпер айцец Мацукевіч не жадаў ад вернікаў ніякай аплаты для сябе, жадаў толькі ахвярнасьці для разбудовы царквы. Як і ўсе іншыя, ён знайшоў сабе працу, каб зарабіць на ўтрыманьне, а ў нядзелі й сьвяты служыў у царкве, ды абслугоўваў сваіх вернікаў. Так было праз усе гады ягонай сьвятарскай дзейнасьці, так ёсьць і цяпер.

Праз некалькі год, як стала цесна, купілі іншы, большы дом з пэрспэктывай разбудаваньня ў ім зусім асобнай вялікай царквы. Гэта пэрспэктыва стаіць на парадку дня. І мы пэўны, што пры адданасьці сьвятой справе айца Мацукевіча й падтрыманьні вернікаў — яна зьдзесьніцца. Усе ідэі робяцца рэчаіснымі толькі тады, калі за зьдзейсьненьне іх бяруцца ідэйныя людзі.

**Прыхажанка**

### АДНЫМ БЕЛАРУСАМ БОЛЬШ

Сёлетняй вясной сябры ЗБК ў Таронто віталі свайго віцэ-старшыню спадара Вячаслава Касьцюкевіча й ягоную жонку спадарыню Ірэну з нараджэньнем сына Андрэя. Хрэсьбіны нованароджанага адбыліся 7-га чэрвеня. Абрад хрышчэньня выканаў айцец Мацукевіч. Кумамі былі Др. Раіса Жук і спадар Міхал Кулеш.

Ведама як на хрэсьбінах: добра выпілі ды закусілі, каб Андрэй здаравей і весялей гадаваўся.

### У ВЫДАВЕЦТВЕ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» АБО Ў НАШЫХ ПРАДСТАЎНІКОЎ

**заўсёды можна набыць наступныя кнігі:**

**Янка Купала. СПАДЧЫНА.** Выбар паэзіі з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча. Бач. 564. Цана 7, 9 або 11 ам. дал. (залежна ад вокладкі й паперы).

**Янка Купала. ТУТЭЙШЫЯ.** П'еса з крытычным артыкулам Р. Склюта. 83 бач. Цана 1 ам. дал.

**Янка Купала. РАСЬКІДАНАЕ ГНЯЗДО.** Драма з крытычным артыкулам Р. Склюта. 58+XV бач. Цана 1 ам. дал.

**Якуб Колас. НОВАЯ ЗЯМЛЯ.** Паэма з крытычным артыкулам Р. Склюта. XXXII+246 бач. Цана 3 ам. дал.

**Якуб Колас. СЫМОН МУЗЫКА.** Паэма з крытычным артыкулам Р. Склюта й А. Бабарэкі. XXXII+238 бач. Цана 3 ам. дал.

**Якуб Колас. У ПАЛЕСКАЙ ГЛУШЫ.** Повесьць. 158 бач. Цана 1,50 ам. дал.

**Максім Багдановіч. ВЯНОК.** Збор твораў з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча й Ант. Адамовіча. 274 бач. Цана 3 або 4 ам. дал. (залежна ад вокладкі).

**Алесь Гарун. МАТЧЫН ДАР.** Збор твораў з крытычнымі артыкуламі Ант. Адамовіча й А. Барычэўскага. 268 бач. Цана 3 ам. дал.

**Андрэй Мрый. ЗАПІСКІ САМСОНА САМАСУЯ.** Сатырычная аповесьць з крытычным артыкулам Р. Склюта. 88 бач. Цана 1 ам. дал.

**Лукаш Калюга. НЯДОЛЯ ЗАБЛОЦКІХ.** Аповесьць з крытычным артыкулам Р. Склюта. 127 бач. Цана 1,50 ам. дал.

**Власт (Вацлаў Ластоўскі). ТВОРЫ.** Апавяданьні. 112 бач. Цана 1 ам. дал.

**Юрка Віцьбіч. ПЛЫВЕ З-ПАД СЬВЯТОЙ ГАРЫ НЁМАН.** Мастацкі нарыс. 94 бач. Цана 1 ам. дал.

**Аляксей Кулакоўскі. ДАБРАСЕЛЬЦЫ.** Аповесьць з крытычным артыкулам Ст. Станкевіча. 110 бач. Цана 1 ам. дал.

**БЕЛАРУСКІЯ КАЗКІ.** Зборнік народных казак і літаратурных твораў з казачнымі матывамі. 215 бач. Цана 3 або 4 ам. дал. (залежна ад вокладкі).

**ЛЯ ЧУЖЫХ БЕРАГОЎ.** Альманах твораў беларускіх эміграцкіх паэтаў і пісьменьнікаў. 238 бач. Цана 3 ам. дал.

**Рыгор Крушына. ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ.** Цана 2 ам. дал.

# Беларускі навуковец у даведніку амэрыканскіх вучоных-філялёгаў

Кагадзе выйшла ў сьвет чацьвертае выданьне **Даведніку амэрыканскіх вучоных, Бібліяграфічнага даведніка,** трэці том якога прысьвечаны замежным мовам, сучасным і клясычным, лінгвістыцы і філялёгіі (Directory of American Scholars, a Biographical Directory, Volume III, Foreign Lenguages — Modern and Classical, Linguistice and Philology. Edited by the Jaques Cattell Press, Editors of American Men of Science. Fourth Edition Published 1964 with the cooperation of the American Council of Learned Societies, R. R. Bowker Company, New York, N. Y.)

На падставе рэкамэндацый навуковых асацыяцыяў, найвыдатнейшых амэрыканскіх вучоных, прэзыдэнтаў і дэканаў каледжаў і унівэрсытэтаў, рэдакцыйная калегія прыклала шмат стараньняў, каб у гэты **Даведнік** трапілі найноўшыя біяграфіі амэрыканскіх вучоных, што выявілі сябе выдатна ў галіне навучаньня, досьледаў і навуковымі працамі.

З беларусаў-навукоўцаў у Даведнік трапіў прафэсар Уладзімер Сядура. На балонцы 225 падаецца месца й час нараджаньня д-ра У. Сядуры, прычым пасьля назову Менск падаецца назва краіны: Беларусь. Даюцца дакладныя весткі аб асьвеце, навуковых годнадсьцях выкладчыцкай працы. Адзначаюцца гады дзейнасьці на амэрыканскай навуковай ніве, хуткае прасоўваньне да годнасьці поўнага прафэсара ў Палітэхнічным Інстытуце. Не абмінаецца сяброўства ў кольніх Амэрыканскіх навуковых аб'яднаньнях. Сярод галоўных друкаваных працаў называюцца і кнігі, прысьвечаныя беларускім тэмам, гэткія, як «Беларускі тэатр і драма», друкаваная ў Ню-Ёрку ў 1955 г. па-ангельску, і «Сорак гадоў Беларускае культуры пад Саветамі», што выйшла ў 1959 г. панямецку ў Мюнхэне. Падаюцца таксама тэмы цяперашніх навуковых заінтэрасаваньняў беларускага навукоўца, як і адрас, праз які можна наладзіць зь ім сувязь.

Наагул Даведнік робіць станоўчае ўражаньне дакладнасьцяй інфармацыі і адсутнасьцяй блытаніны ў беларускім пытаньні. Шкада, аднак, што на яго балонкі ня трапілі іншыя беларускія навукоўцы ў Амэрыцы.

**У. Г.**

# Беларускі канцэрт на нюёрскай сусьветнай выстаўцы

У нядзелю 21-га чэрвеня на ньюёрскай сусьветнай выстаўцы Беларусы Амэрыкі далі канцэрт беларускага музычнага й танцавальнага мастацтва. Канцэрт адбыўся ў выставачным павільёне, прызначаным для мастацкіх паказаў. У канцэрце бралі ўдзел самадзейныя мастацкія групы і салістыя з гарадоў Нью Ёрку, Кліўленду, Саўт Рывэру і Нью Бранзвіку — разам 120 асобаў.

Перад пачаткам канцэрту быў прачытаны кароткі даклад паангельску пра Беларусь і нашае народнае музычнае мастацтва.

На канцэрце выступілі два хоры: жаночы ансамбль «Каліна» пад кіраўніцтвам кампазытара Барысаўца, і мяшаны хор пад кіраўніцтвам кампазытара Бераасава. Дзьве танцавальныя групы Згуртаваньня Беларускае моладзі Амэрыкі выканалі сем беларускіх народных танцаў. Сьпявалі таксама беларускія салісткі: Ліза Маркоўская, Клава Ярашэвіч, Іра Каляда і іншыя.

Усе удзельнікі канцэрту — харыстыя, танцоры й сьпявачкі-салісткі выступалі ў беларускай нацыянальнай вопратцы. Частка праграмы была сфільмаваная, а таксама запісаная на магнітафонную істужку.

Канцэрт беларускага народнага мастацтва на сусьветнай выстаўцы ў Нью Ёрку трываў каля трох гадзінаў. Гледачы — Беларусы й Амэрыканцы — успрынялі праграму вельмі цёпла, узнагароджваючы ўдзельнікаў паказу воплескамі. Пры ўваходзе ў павільён, у якім адбываўся канцэрт, была наладжаная выстаўка беларускіх кніжных выданьняў ды ангельскае літаратуры пра Беларусь. Канцэрт беларускага народнага мастацтва на сусьветнай выстаўцы ў Нью Ёрку быў арганізаваны супольнымі высілкамі беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Амэрыкі.

### АХВЯРЫ

Склалі ахвяры на Выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны»:

Беларусы Чыкаго й ваколіцаў, дал.:

| | |
|---|---|
| Я. Чарнецкі | 5.00 |
| М. Махнач | 10.00 |
| С. Антонік | 5.00 |
| Н. Жыжнеўскі | 5.00 |
| А. Беленіс | 10.00 |
| М. Кучура | 10.00 |
| А. Занковіч | 20.00 |
| Г. Падбельскі | 5.00 |
| В. Пануцэвіч | 5.00 |
| **Разам: дал.** | **75.00** |
| Ліста А. Маркевіча (Канада) дал.: | 19.00 |
| М. Пракопчык (Канада) | 13.00 |
| **Разам: дал.** | **32.00** |

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Беларуская школа-інтарнат імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане ўжо прымае ўступныя заявы ад кандыдатаў на новы 1964-65 школьны год.**

**Кандыдаты павінны быць хлапцамі беларускага паходжаньня (г. зн. прынамся адзін з іхных бацькоў павінен быць Беларусам) у веку ад 8 да 11 гадоў. Старэйшыя хлопцы будуць прыймацца толькі ў вынятковых выпадках.**

**Лік вольных месцаў у школе вельмі абмежаваны. Заявы будуць разглядацца ў парадку атрыманьня. Дзеля гэтага бацькі, якія жадалі-б паслаць сваіх сыноў у Школу сьв. Кірылы Тураўскага ў наступным школьным годзе, павінны ў сваім уласным інтарэсе зьвярнуцца ў гэтай справе як найхутчэй да кіраўніцтва школы.**

**Ува ўсіх справах зьвязаных із школаю трэба зьвяртацца да айца Кіраўніка, які будзе заўсёды рады даць неабходныя інфармацыі і выслаць праспэкт школы тым, якія гэтага жадаюць.**

**Пісаць трэба на адрас:**

The Rev. Headmaster
St. Cyril's House
41, Holden Road,
London, N. 12

# Ліст у Рэдакцыю

Паважаныя Суродзічы!

Вялікім недахопам на эміграцыі была нястача падручніка для гісторыі Беларусі. Разьехаўшыся з Эўропы на сталае жыцьцё ў розныя краіны сьвету, наша эміграцыя направіла сваё матар'яльнае становішча, было выдадзена ці мала добрых кнігаў. Але гісторыі Беларусі пакуль яшчэ ніхто ня выдаў. Патрэба гэтага выданьня з кажным годам пабольшваецца. Расьце шмат моладзі, якая пра Беларусь мала ведае, бо няма адкуль папоўніць гэтыя веды. Паадкрываліся беларускія школы, а без падручнікаў вучыць вельмі цяжка. Нават і дарослым часам добра заглянуць у такую кнігу.

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе выдала шмат працаў, хоць гэта было нялёгка з розных прычынаў, асабліва з фінансавых. Дзякуючы падтрымцы нашых суродзічаў мы перамагалі ўсе цяжкасьці. І яшчэ шмат што выдаём і падрыхтоўваем.

Цяпер задумалі выдаць «Нарыс Гісторыі Беларусі». Гэтая кніга мае абыймаць гісторыю нашага народу ад найдаўнейшых часоў да сяньняшніх дзён. Вялічыня кнігі будзе каля 400 бачынаў нармальнага кніжнага фармату. Аўтарам зяўляецца былы выкладчык беларускае гімназіі ў Нямеччыне. Ратаатарам выдаваць такую кнігу было-бы грэшна й сорамна кажнаму Беларусу. Таму зьвяртаемся да ўсіх Вас, дарагія суродзічы: Перасылайце перадплату і ахвяры на гэтую кнігу на наступны адрыс:

Mr. K. Kalosha
3517 West 25th St.
Cleveland 9, Ohio

Хай кажны Беларус прыйме ўдзел у гэтай акцыі, а зробім вялікую справу.

Спадзяёмся й моцна верым, што наш гэты заклік будзе прыняты да сэрца кажным Беларусам, за што наперад шчыра дзякуем.

**Кіраўніцтва Кліўлендзкага Аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы**

### ПАДЗЯКА

У цяжкім горы, спрычыненым сьмерцяй майго дарагога мужа, мне было выказана шмат шчырых словаў спачуваньня й суцяшэньня. Гэтым шляхам ад шчырага сэрца дзякую за іх усім блізкім і далёкім сябром і знаёмым.

**Эльза Сыч**

### У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЭТЫ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Вельмі Паважаная Рэдакцыя!

Не адмоўце надрукаваць у сваёй Паважнай Газэце ніжэйпаданага:

Пранятыя да глыбіні душы сьмерцяй нашага Дарагога Сябры, вялікага беларускага патрыёта, пісьменьніка й публіцыстага **Пётры Сыча** — лучымся ў жалобе зь ягонай жонкай Эльзай, а таксама калегамі й супрацоўнікамі яго.

**Др. Раіса й Вінцэнт Жук-Грышкевіч**

Ужо выйшла ў сьвет вельмі карысная і цікавая кніга а. Язэпа Гэрмановіча:

## „КІТАЙ, СІБІР, МАСКВА“




Кніга абыймае 294 бачыны і каштуе ў Канадзе і Задзіночаных Штатах Амэрыкі **3,— дал.**, а ў іншых краёх раўнавартасьць **2,50 ам. дал.**

Кнігу ўжо можна заказываць:

У Англіі:
Rev. Leo Haroshka
Marian House, Holden Ave.
London 12, England.

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis
2042 W. St. Paul Ave.
Chicago 47, Ill. USA.

Mr. B. Danilovich
303 Hovard Str.,
New Brunswick
New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew
3416 W. 49-th Str.
Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk
833 1/2, N. Coronado Str.
Los Angeles 26, Calif. USA.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan
14 Steel Str.
Spotswood-Melbourn,
Vic., Australia.

У Канадзе:
Mr. K. Akula
57 Riverdale Ave.
Toronto 6, Ont. Kanada.

У Нямеччыне:
Rev. Prot. W. Soloviej
892 Schongau/Lech (Obb.)
Städt. Altersheim

Пасьля доўгай хваробы на 60-ым годзе жыцьця 25 красавіка памёр у выгнаньні

**с. п. Хведар БАРЫСІК**

Нябошчык, які нарадзіўся ў 1904 годзе, паходзіў дзесьці з Пружаншчыны. Дома засталіся жонка й дзеці. Пахаваны на могільніку Гангвайд каля Аўгсбургу. Хай пухам яму будзе чужая зямелька.

Пасьля доўгай і цяжкай хваробы 23 чэрвеня ў Амбэргу памёр

**с. п. В. РУДЗЕЎСКІ**

Нябошчык быў перавезены й пахаваны ў ЗША.

# Памёр Баляслаў Бабарыка

**(Заканчэньне з 7-ай бач.)**

на ягоную апеку. У такіх абставінах ня было выбару, Бабарыка мусіў ехаць у Польшчу.

Трапіўшы на «земе одзысканэ» ён не пераставаў цікавіцца беларускай справай і тут. Сьведчаць аб гэтым ягоныя лісты, у адным зь якіх ён, між іншага, пісаў: «...Працую на будаўніцтве, пражыць можна. Чытаю «Ніву» (Беластоцкую, Ж.) і «Беларусь». Маю таксама Выбраныя творы Янкі Купалы. Беларускую кніжку тут дастаць цяжка. Я сумую па сваім краю, але падумаўшы, дык няма па чым і сумаваць. Жыцьцё там чужое й цяжкое. Будынкі нашы спалены, ня было-б дзе й прытуліцца. Напішыце як там у вас разьвіваецца беларуская справа й як жыве беларуская калёнія».

Але, але. Бабарыка ўсюды быў чынным Беларусам, шукаў Беларусаў, кантактаваў іх між сабою й ведаў дзе хто знаходзіцца. На Блізкім Усходзе й Італіі ён езьдзіў цэлымі днямі па розных аддзелах, вышукоўваючы Беларусаў. Ён шмат спрычыніўся да таго, што жаўнеры-Беларусы пазнаходзіліся, выявіліся, ды стварылі пазьней свае нацыянальныя арганізацыі.

Хай-жа будзе лёгкай зямля чужая гэтаму сьціпламу й спакойнаму, але шчыраму й моцнаму беларускаму грамадзкаму працаўніку.

**Ж.**

*ПОШУКІ*

Юры Грыбун з Дому прыстарэлых у Майнкофэне шукае сястру Глафіру Грыбун, якая калісьці жыла ў ДП-лягерах Кам і Эрлянген, а потым выехала праўдападобна ў Аўстралію. Просьба пісаць на адрас:

Herrn Georg Grybun
8351 Pankofen
Mainkofen, H. 3
Pflegeanstalt
Deutschland

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. W. Duniec,** 3444 Marvin Ave., Cleveland 9, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon, Paris 9.**
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларуская газэта палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**